ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
52 [2631]
ПЯТНІЦА
29
снежня 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

# СА СВЯТАМ, ДАРАГІЯ ТАВАРЫШЫ!




Плакат І. БЯЛЕЦКАГА.

# ДА НАРОДАЎ СВЕТУ

Мы, прадстаўнікі больш чым 100 нацый і народнасцей СССР, якія сабраліся ў Маскве ў сувязі з 50-годдзем утварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, звяртаемся да ўсіх народаў планеты з пасланнем міру, дружбы і брацтва.

Працоўныя Краіны Саветаў, здзейсніўшы сацыялістычную рэвалюцыю і ўстанавіўшы рабоча-сялянскую ўладу, першымі ўзяліся за рэалізацыю вялікай мэты: згуртаваць народы велізарнай краіны ў імя пабудовы грамадства, свабоднага ад эксплуатацыі чалавека чалавекам, пакласці канец варожасці паміж нацыямі, арганізаваць іх сумеснае жыццё на аснове давер'я і дружбы, стварыць брацкае адзінства народаў.

Ад далёкай старажытнасці і да нашых дзён, праз усю гісторыю чалавецтва цягнецца ланцуг племянных, расавых і нацыянальных канфліктаў. Не раз яны ўвяргалі краіны і народы ў бездань бедстваў і пакут, палівалі крывёй цэлыя кантыненты. Тысячагоддзямі лепшыя розумы біліся над тым, як знайсці выйсце з такога становішча, але натыкаліся на глухую сцяну панавання эксплуататараў, якое параджае і падтрымлівае нацыянальны прыгнёт.

Цяпер увесь свет — сведка таго, што смелая задума савецкіх людзей, натхнёных і кіруемых Камуністычнай партыяй, ажыццёўлена. Стала явай цудоўная мара аб шматнацыянальнай дзяржаве новага, сацыялістычнага тыпу — магутным добраахвотным саюзе свабодных народаў, спаяных дружбай і брацтвам.

Летапіс усіх вядомых да Кастрычніка шматнацыянальных дзяржаў — гэта няспыннае абвастрэнне міжнацыянальных антаганізмаў. Зусім іншым з'яўляецца развіццё Савецкага Саюза. Гэта — умацаванне яго эканамічных, палітычных і духоўных асноў, гэта — няўхільнае згуртаванне і збліжэнне ўтвараючых яго народаў.

Не цуд, не выпадковы збег акалічнасцей прынеслі нам поспех, ён глыбока заканамерны. Савецкія людзі апіраліся на перамогу Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Іх натхнялі вызначаныя неўміручым Леніным сацыялістычныя прынцыпы развіцця народаў у адзінай шматнацыянальнай сям'і. Іх вяла і вядзе Камуністычная партыя, узброеная сапраўды навуковай тэорыяй пераўтварэння грамадства, непахісная ў сваёй вернасці справе рабочага класа, усяго працоўнага народа.

У гістарычнай бітве за сацыялізм аб'ядналіся вакол рабочага класа працоўныя ўсіх нацый і нацыянальнасцей нашай краіны. Іменна на базе сацыялізму іх сумеснымі намаганнямі быў у корані знішчан нацыянальны прыгнёт, пераадолена адсталасць нацый, пароджаная іх каланіяльным мінулым. Калі ўвесь наш лад і ўвесь наш жыццёвы ўклад прасякнуты духам інтэрнацыяналізму, то гэта дзякуючы таму, што ў нашай краіне даўно і беспаваротна перамаглі сацыялізм, ленінская палітыка дружбы народаў.

У дзень паўвекавога юбілею СССР мы выказваем гарачую ўдзячнасць працоўным усіх краін, якія нязменна дэманструюць сваю салідарнасць з першай у свеце сацыялістычнай шматнацыянальнай дзяржавай.

Наша ўдзячнасць звернута да ўсіх, хто пад лозунгам «Рукі прэч ад Савецкай Расіі!» змагаўся супраць інтэрвенцыі імперыялістычных дзяржаў; хто выступаў разам з намі ў смяротнай сутычцы з фашызмам; хто плячо ў плячо з народамі Савецкага Саюза, іншых сацыялістычных краін дабіваецца ўмацавання міру, зрываючы злачынныя задумы імперыялістычных агрэсараў.

Ствараючы Савецкі Саюз, практычна закладваючы першыя камяні ў яго будынак, Ленін, Камуністычная партыя думалі аб будучыні не толькі нашай краіны. Сваім поглядам яны ахоплівалі лёс усяго чалавецтва, яны былі перакананы, што стварэнне сацыялістычнай шматнацыянальнай дзяржавы, дзе няма прыгнечання і эксплуатацыі, дапаможа ўсім людзям зямлі пракласці свой шлях да разняволення і, азіраючыся на мінулае пяцідзесяцігоддзе, мы можам ганарыцца тым, што ўсе гэтыя гады Савецкі Саюз нязменна выступаў на баку тых, хто змагаецца за свабоду і шчасце народаў, рабіў і робіць усё магчымае для перамогі іх справядлівай справы.

Сучасную эпоху вызначае небывалы ў гісторыі маштаб грамадскіх пераўтварэнняў. Пабudaваны спачатку ў нашай краіне сацыялізм атрымаў перамогу ў радзе краін Еўропы, Азіі і Лацінскай Амерыкі, утварылася сусветная сацыялістычная сістэма. Сацыялістычная садружнасць выступае як магутная сіла сусветнага прагрэсу.

Пад магутным напорам нацыянальна-вызваленчага руху, які натхнёны прыкладам працоўных краін сацыялізму і карыстаецца іх падтрымкай, рухнулі каланіяльныя імперыі, і на дарогу самастойнага развіцця выйшлі многія прыгнечаныя ў мінулым народы.

Мы горача вітаем народы сацыялістычных краін, якія будуюць новае грамадства.

Мы звяртаемся з брацкім прывітаннем да рабочага класа, да працоўных у краінах капіталу, якія дабіваюцца збаўлення ад эксплуатацыі, ад палітычнага і духоўнага заняволення.

Мы выказваем салідарнасць з народамі, якія нядаўна сталі на шлях сацыяльнага прагрэсу, з тымі, хто ў цяжкай барацьбе з неакаланіялізмам і ўнутранай рэакцыяй цвёрда адстайвае суверэнітэт і незалежнасць сваіх маладых дзяржаў.

Цяпер у сусветную палітыку ўцягнуты велізарныя масы, перад імі адкрылася рэальная магчымасць самім вызначаць свой лёс. Ідэі сацыялізму, ідэі свабоды і раўнапраўя народаў, ідэі нацыянальнай незалежнасці авалодваюць свядомасцю соцень мільёнаў. У наш час чалавецтва мае велізарныя прадукцыйныя сілы. Навукова-тэхнічная рэвалюцыя небывала паскарае іх развіццё, пашырае гарызонты пазнання.

Для народаў усё больш нецярпімым становіцца бачыць, што многія важнейшыя праблемы сучаснага свету не знаходзяць вырашэння, а народжаныя капіталізмам сацыяльныя бедствы не толькі не ліквідоўваюцца, але разрастаюцца. Бо да гэтага часу на велізарных прасторах зямнога шара пануюць страх перад заўтрашнім днём, сацыяльная несправядлівасць, нацыянальныя і расавыя прыгнёты, раскоша нікчэмнай меншасці суседнічае з беднасцю мільёнаў. Паўгалоднае існаванне застаецца лёсам цэлых народаў. Усё гэта — вынік каланіялізму і імперыялістычнага прыгнёту.

Хоць больш як чвэрць стагоддзя чалавецтва не ведае сусветнай вайны, для самасупакоенасці няма месца. Працягваецца ганебная агрэсія ЗША ў В'етнаме. Амерыканскі імперыялізм наўмысна зацягвае падпісанне пагаднення аб спыненні вайны. Ён зноў аднавіў варварскія бамбардзіроўкі тэрыторыі ДРВ. Гінуць тысячы нявінных мірных жыхароў.

Яшчэ топчуць арабскія землі ізраільскія акупанты. Яшчэ апаганьваюць зямлю каланіяльныя і расісцкія рэжымы. І ўсё гэта адбываецца ў апошняй трэці XX стагоддзя.

Савецкі народ, як і ўсе міралюбівыя народы, гнеўна пратэстуе супраць злачынстваў амерыканскага імперыялізму на зямлі В'етнама. Мы зноў пацвярджаем сваю нязменную салідарнасць і рашучую падтрымку гераічнаму в'етнамскаму народу, а таксама народам Лаоса і Камбоджы і выказваем цвёрдую ўпэўненасць у тым, што іх справядлівая справа пераможа!

Мы пацвярджаем сваю рашучую падтрымку барацьбітам супраць імперыялістычнай агрэсіі на Арабскім Усходзе, народам, якія змагаюцца супраць каланіяльнага панавання.

Народам даводзіцца плаціць шматмільярдную даніну мілітарызму. Гэтыя сродкі, так востра неабходныя для мірных, стваральных мэт, для павышэння жыццёвага ўзроўню працоўных, растрачваюцца на расшырэнне і мадэрнізацыю ваеннай машыны, якая ў руках імперыялізму застаецца сур'ёзнай пагрозай міру.

Усё большае значэнне для чалавецтва набывае барацьба супраць небяспекі, звязанай з нарастаючым пагаршэннем прыродных умоў, атручваннем паветра, мораў і рэк, забруджваннем гарадоў.

Мы, прадстаўнікі савецкага народа, звяртаемся да народаў свету, да ўсіх людзей — незалежна ад іх нацыянальнасці, веравызнання і колеру скуры — з заклікам аб'яднацца для вырашэння гэтых наспеўшых праблем.

Мы заклікаем народы аб'яднаць і актывізаваць намаганні ў імя захавання і ўмацавання міру, ліквідацыі ваеннай небяспекі і ачагоў імперыялістычнай агрэсіі. Для ажыццяўлення рашэнняў ААН аб непрымяненні сілы ў міжнародных адносінах і забароне навекі ядзернай зброі і іншых сродкаў масавага знішчэння людзей.

Мы заклікаем народы аб'яднаць і актывізаваць намаганні ў імя далейшага ўмацавання пазіцый сацыялізму, умацавання незалежнасці краін, якія скінулі каланіяльныя ланцугі, поўнай ліквідацыі каланіяльнага прыгнёту.

Мы заклікаем народы аб'яднаць і актывізаваць намаганні ў імя выкаранення голаду, галечы, сацыяльнай несправядлівасці, нацыянальнага прыгнечання і няроўнасці.

Мы заклікаем народы аб'яднаць і актывізаваць намаганні ў імя абароны культурных і маральных каштоўнасцей чалавецтва ад рэакцыйнай ідэалогіі, ад яду расізму, шавінізму і фашызму.

Мы заклікаем народы аб'яднаць і актывізаваць намаганні ў імя захавання і аднаўлення прыроднага асяроддзя, якое акружае чалавека.

Ад імя савецкага народа і перад усім чалавецтвам мы ўрачыста заяўляем, што наша краіна будзе і надалей непахісна верная высокім ідэалам дружбы народаў, свабоды і сацыялізму. На аснове праграмы міру, прынятай XXIV з'ездам КПСС, мы будзем нястомна змагацца за ўмацаванне сацыялістычнай садружнасці: за далейшую разрадку міжнароднай напружанасці і мірнае суіснаванне дзяржаў з розным грамадскім ладам; за нацыянальную незалежнасць народаў, узаемную павагу і дружбу паміж імі; за паляпшэнне жыцця людзей працы і сацыяльны прагрэс усяго чалавецтва.

Няхай пераможуць трывалы мір на зямлі, свабода і нацыянальная незалежнасць народаў! Няхай кожны прыме ўдзел у барацьбе за гэтыя высокія, гуманныя мэты! Няхай кожны ўнясе свой уклад у ажыццяўленне запаветных спадзяванняў чалавецтва: жыць ва ўмовах міру, свабоды, сацыяльнага прагрэсу!

**ВЯРХОЎНЫ САВЕТ САЮЗА САВЕЦКІХ САЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК**

**ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА**

*Зварот «Да народаў свету» аднагалосна прыняты на сумесным урачыстым пасяджэнні Цэнтральнага Камітэта КПСС, Вярхоўнага Савета Саюза ССР і Вярхоўнага Савета РСФСР 22 снежня 1972 года.*

# СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР

26—27 снежня 1972 года ў Мінску праходзіла чацвёртая сесія Вярхоўнага Савета Беларускай ССР восьмага склікання. Для ўдзелу ў ёй у сталіцу рэспублікі з'ехаліся з усіх куткоў Беларусі народныя выбраннікі — перадавікі прамысловасці і сельскай гаспадаркі, дзеячы навукі і культуры, партыйныя і савецкія работнікі.

Сесія разгледзела пытанні: аб Дзяржаўным плане развіцця народнай гаспадаркі Беларускай ССР на 1973 год; аб Дзяржаўным бюджэце Беларускай ССР на 1973 год і выкананні Дзяржаўнага бюджэту за 1971 год; аб праекце Воднага кодэкса Беларускай ССР; аб выбранні Вярхоўнага суда Беларускай ССР; аб зацвярджэнні Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

Вярхоўны Савет прыняў Закон аб Дзяржаўным плане развіцця народнай гаспадаркі БССР на 1973 год. Прыняты таксама Закон аб Дзяржаўным бюджэце БССР на 1973 год і пастанова аб зацвярджэнні справаздачы аб выкананні Дзяржаўнага бюджэту Беларускай ССР за 1971 год. На сесіі быў прыняты Закон аб зацвярджэнні Воднага кодэкса Беларускай ССР, выбраны Вярхоўны суд Беларускай ССР.

Вярхоўны Савет зацвердзіў Указы Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі, прынятыя паміж сесіямі.

# ЛАЎРЭАТЫ ПРЭМІЙ ЛЕНІНСКАГА КАМСАМОЛА РЭСПУБЛІКІ

Бюро ЦК ЛКСМБ, разгледзеўшы прадстаўленні абкомаў, гаркомаў, райкомаў ЛКСМБ, творчых саюзаў БССР, вучоных і навукова-тэхнічных саветаў навуковых устаноў, вышэйшых навучальных устаноў, прысудзіла прэміі Ленінскага камсамола рэспублікі за 1972 год.

Сярод лаўрэатаў — паэт Генадзь Бураўкін. Прэмія яму прысуджана за высокі ідэйна-мастацкі ўзровень вершаў, адлюстраванне ў іх маладзёжнай тэматыкі, рэвалюцыйнай пераемнасці пакаленняў, услаўленне велічы працоўных подзвігаў камсамольцаў і моладзі на новабудоўлях рэспублікі.

Прэміі прысуджаны Валерыю Кучынскаму, салісту оперы Дзяржаўнага ордэна Леніна Акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларускай ССР — за высокае выканаўчае майстэрства і прапаганду камсамольскай песні сярод моладзі;

Дзмітрыю Смольскаму, кампазітару — за араторыю «Мая Радзіма», напісаную на вершы беларускіх паэтаў М. Танка, П. Панчанкі, Н. Гілевіча, Р. Барадуліна, А. Александровіча, А. Ставера, С. Грахоўскага, А. Вярцінскага, за песні аб Радзіме, партыі, камсамоле;

Уладзіміру Хазанскаму, журналісту — за шматгадовую работу ў камсамольскім друку, актыўную прапаганду подзвігаў камсамольцаў і моладзі Віцебскай вобласці ў гады Вялікай Айчыннай вайны, за аповесць аб Прошкаўскім інтэрнацыянальным камсамольскім падполлі «Спытайце ў бяроз»;

Народнаму ансамблю песні і танца «Маладосць» Палаца культуры Упраўлення бытавога абслугоўвання г. Віцебска (мастацкі кіраўнік заслужаны дзеяч культуры БССР І. Серыкаў) — за вялікую работу па камуністычнаму выхаванню моладзі і высокі мастацкі ўзровень канцэртнага рэпертуару; аркестру штаба Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі (мастацкі кіраўнік — народны артыст БССР Б. Пянчук) — за высокае мастацкае выканаўчае майстэрства, актыўную прапаганду лепшых музычных твораў аб камсамоле, вялікую работу па ваенна - патрыятычнаму выхаванню моладзі.

Прэміі Ленінскага камсамола рэспублікі прысуджаны і ў галіне навукі, тэхнікі і вытворчасці.

50 год утварэння СССР

# Мікола НАГНІБЯДА
# ЗАПІСЫ НА СТАРОНКАХ

I

ПРАХОДЗЯЦЬ дні, гады, і ва ўспамінах ярчэй паўстае ўсё добрае, дарагое, незабыўнае...

Сёння я ўспамінаю мілую сэрцу Беларусь.

Як хораша адчуваць, што ў кожным доме, у кожнай хаце тут шануюць сваіх паэтаў. Старэйшыя для дзяцей сваіх прынеслі з партызанскіх лясоў баявыя песні, маладыя паўтараюць усхваляваныя радкі вершаў дзён вялікай будоўлі, а самыя маленькія—вучаць іх па букварах...

А я палюбіў Беларусь у юнацтве. Тады ў Харкаве, у доме Тарэня Масэнкі, я пазнаёміўся з прыемным чалавекам Янкам Купалам. Ён чытаў свае вершы. Яны глыбока ўсхвалявалі мяне.

Праз многа гадоў пасля гэтай сустрэчы разам з Максімам Рыльскім быў я ў Мінску на святкаванні сямідзесяцігоддзя з дня нараджэння Якуба Коласа. У яго дом прыйшлі госці з усіх рэспублік, прыехалі наведаць і павіншаваць вялікага паэта. У тыя дні мы сустракаліся з многімі пісьменнікамі, з некаторымі пазнаёміліся ўпершыню. Мне спадабалася сардэчнасць і глыбіня ў выступленнях Петруся Броўкі.

І такі ён заўсёды. Гэта пацвердзіла не адна кніга паэта, і асабліва «А дні ідуць...». Чытаючы яе, зноўку і зноўку адчуваеш сілу невычэрпных крыніц паэтычнага слова—народную творчасць.

У цудоўнай паэме «Заўсёды з Леніным» паэт усхвалявана ўспамінае:

**Я помню —**
**Між лесу глухога**
**І чэзлых, спустошаных ніў**
**Угледзеў мяне ён, малога,**
**Што з торбай на паству хадзіў.**
**Мяне**
**Яго словы ўскрылілі**
**І ласкай сагрэлі ўсяго.**
**І кніжку далі мне. Адкрылі**
**Да шчасця дарогу яго.**

Нельга без хвалявання чытаць і «Голас сэрца» — паэму, якую Броўка прысвяціў памяці сваёй маці. Гэта твор глыбока драматычны, напоўнены неўміручай любоўю да загінуўшых у баях супраць фашызму, твор, звернуты да людзей усяго свету.

Лёс паэта непарыўны з лёсам роднага народа не толькі ў гэтым творы. Кожны верш, лірычная мініяцюра, вострашая публіцыстыка—усё, ад першага да апошняга радка, прасякнута гэтым адзінствам. Адсюль—праўда, глыбокая партыйнасць і тая прастата слова, якая даецца толькі вялікаму таленту. За такое слова змагаецца Пятрусь Броўка.

З уласцівай для яго мэтанакіраванасцю і страснасцю Пятрусь Броўка пасля паездкі па Амерыцы стварыў вялікі цыкл вершаў, выказаў свае адносіны да міжнародных падзей. Гнеў і абурэнне супраць падпальшчыкаў вайны змяняюцца ў паэтычнай інтанацыі Петруся Броўкі матывамі шчырай спагады і шырокага закліку, калі аўтар звяртаецца да працоўнага народа. Светлым, шчымлівым пачуццём смутку прасякнуты яго вершы-ўспаміны аб родным краі.

...Так, уся вялізная Айчына жыве ў сэрцы паэта, у сэрцы страсным і пявучым, у сэрцы, якое аддадзена людзям. Гэтае сэрца ўважлівае, закаханае ў родную Беларусь. Яе голасам пяе паэт песні, блізкія і родныя не толькі беларусам, Пятрусь Броўка малюе карціны, якія хвалююць усіх простых людзей. Голас Беларусі, яе фарбы здолеў захаваць рускі перакладчык кнігі «А дні ідуць...» Якаў Хелемскі. Ён даўно працуе з Петрусём Броўкам і яго таварышамі, выдатнымі беларускімі паэтамі Аркадзем Куляшовым, Максімам Танкам, Піменам Панчанкам, Анатолем Вялюгіным, кнігі якіх, дарэчы, перакладзены і на ўкраінскую мову.

Калісьці даўно Максім Горкі пісаў, што ў нас любоў да чалавека павінна ўзнікнуць з пачуцця здзіўлення перад яго творчай энергіяй, з узаемнай павагі людзей да іх бязмежнай працоўнай калектыўнай сілы, якая стварае сацыялістычныя формы жыцця, з любві да партыі — правадыра працоўнага народа ўсёй краіны, настаўніка пралетарыяў усіх краін. Менавіта аб такіх людзях усхвалявана пяе лаўрэат Ленінскай прэміі Пятрусь Броўка, да іх звяртае ён сваё слова.

II

Я люблю вершы Максіма Танка. Яны даўно хвалююць мяне глыбінёю пачуцця і думкі. Грамадзянская страснасць і сардэчная лірычнасць, крынічная празрыстасць і віртуозная завершанасць яго слова адзначаны шчодрасцю фарбаў і адценняў.

...Чуйнасць, праўда жыцця, грамадзянскі напал непарыўныя ў паэзіі Максіма Танка. Усё гэта прынесла паэту шырокую папулярнасць не толькі ў роднай Беларусі. Яго кнігі ўбачылі свет на многіх мовах народаў нашай краіны і за яе межамі. Не аднойчы выдаваліся яны і на Украіне. Вельмі шырока быў прадстаўлены паэт кнігай «Выбранае», якая выйшла ў Дзяржаўным выдавецтве Украіны. Я рэдагаваў і складаў гэтую кнігу і памятаю, з якой любоўю і стараннасцю аднесліся ўкраінскія паэты ўсіх пакаленняў да перакладаў твораў свайго сябра і пабраціма.

Неяк тады і захацелася мне самому перакласці не паасобныя вершы, а цэлую кнігу новых вершаў Максіма Танка. Я разумеў усю складанасць і адказнасць гэтай работы.

Я па некалькі разоў перачытваў зборнікі Максіма Танка «Мой хлеб надзённы», «Глыток вады», «Перапіска з зямлёй». Яны захапілі мяне, і гэтае захапленне як бы блаславіла мяне на пераклады. З восені да вясны жыў я ў свеце паэзіі народнага паэта Беларусі. Калі-нікалі на агеньчык да мяне заходзілі Андрэй Малышка, Васіль Швец. Яны слухалі пераклады. Дзякуй ім за добрыя словы, парады. Дзякуй і Дзмітрыю Паламарчуку—цудоўнаму перакладчыку, які ў ірпенскай цішыні сваёй хаты першым прачытаў мой том перакладаў Максіма Танка і натхніў мяне на далейшыя пошукі больш дакладных інтанацый таго ці іншага радка.

Я працягваў работу, жадаючы захаваць адметнасць почырку, фарбаў, інтанацый. Гэта давалася нялёгка і адабрала шмат часу, але ва ўзнагароду прынесла мне не адзін дзень творчай радасці.

Дзякуй табе, цудоўны паэт!

III

Успамінаючы пра сваіх сяброў Янку Купалу і Якуба Коласа, наш неўміручы Максім Рыльскі казаў, што кожная сустрэча з паэзіяй вялікіх беларусаў пакідае ў сэрцы, у памяці ўражанне расістай чысціні і сонечнай шчодрасці.

ПАЧУЦЦЕ СЯМ'І АДЗІНАЙ



Сяброўская сустрэча. В. Вітка, М. Нагнібяда.

# Альбінас ЖУКАЎСКАС
# ЖЫВАЯ ПЛЫНЬ БРАТЭРСТВА

На захадзе Беларусі ў балотах ёсць такія дзіўныя рэчкі. Яны нікуды не цякуць. Пачынаюцца ў нейкім месцы, цягнуцца некалькі кіламетраў і недзе неўпрыкмет губляюцца. Мясцовыя жыхары называюць іх мёртвымі рэкамі.

Мне тыя рэкі вельмі і вельмі нагадваюць сувязі паміж народамі ў гады панавання буржуазіі або раней—феадалаў.

Толькі сацыялістычны лад ажывіў гэтыя стаячыя рэкі культуры, надаў ім рух. Яны бурліва, быццам дачакаўшыся веснавой паводкі, рушылі наперад, зліліся ў вялікую, шырокую, неабдымную плынь — сукупнасць савецкай шматнацыянальнай культуры.

На працягу вякоў развіваліся і сувязі паміж літоўскімі і беларускімі народамі — народамі, якія звязвае доўгая дружба, якія здаўна і да сённяшніх дзён блізка сябруюць.

Калі пачалася гэтая дружба? Цяжка сказаць. Магчыма тады, калі двое суседзяў — літовец і беларус—першы раз з прымітыўнай драўлянай сахой выйшлі араць, і адзін ужыў слова «артояс», а другі—«араты» або «ратай». А можа тады, калі, паназіраўшы за работай адзін аднаго, беларус сказаў: «руплівы», а літовец — «рупеснінгас»...

А магчыма і яшчэ раней? Сто гадоў сюды або туды для блізкасці народаў нічога не значаць.

Нямала мы маем з беларусамі агульных слоў, выслоўяў, прымавак, прыказак. Выслоўяў і пра працу, і пра быт, і пра каханне... А колькі тых слоў? Кажуць, дзве сотні. Ды можа больш? Паспрабуй злічыць.

І не так важна, хто стварыў і вымавіў тыя словы, тыя выразы...

Галоўнае тое, што яны, гэтыя словы, падкрэсліваюць існаванне цесных сувязей, цёплых пачуццяў, узаемнай згоды, любові і падзякі.

Шмат разоў даводзілася бываць мне ў Гродзенскім музеі. (Цудоўны, можна толькі парадавацца). У яго этнаграфічным аддзеле тканіны. адзенне напамінаюць літоўскія, дзукійскія, а некаторыя рысы хатняга ўжытку—таксама нагадваюць нашы. Ёсць падабенства і ў народным мастацтве.

Так! Шмат ёсць своеасаблівага, адметнага, але нямала і агульнага паміж аднымі і другімі, паміж дзвюма сёстрамі-рэспублікамі.

А некаторыя дзукійскія песні, казкі і вусная народная творчасць на захадзе Беларусі? Колькі тут агульных матываў, якія нашы вучоныя павінны даследаваць, сістэматызаваць!

Або вось возьмем двух чыстагалосых народных паэтаў: беларуса Янку Купалу і літоўца Людаса Гіру. Адзін пісаў на беларускай мове, другі—на літоўскай. Людас Гіра не знаў беларускай мовы, Янка Купала — літоўскай. Але калі чытаеш напісаныя імі паўстагоддзя назад вершы, здзіўляешся: блізкія галасы, блізкая інтанацыя.

Можа ўплыў аднаго на другога?
Можа блізкасць творчых душ?

Не, хутчэй за ўсё—гэта блізкасць лёсу народаў, гэта падабенства рэха нядолі абодвух народаў, гэта боль прыгнечанага самадзяржаўем працоўнага люду, які знайшоў водгук у творчасці гэтых двух своеасаблівых паэтаў.

Той боль, тая нядоля—доўгія і агульныя.

Прагрэсіўныя беларусы ў мінулым былі добра знаёмы з турмамі і шыбеніцамі Вільнюса, літоўцы—з мінскімі і гродзенскімі турмамі.

У Вільнюсе, на былой Лукішскай, а цяпер плошчы імя У. І. Леніна, ляжыць адшліфаваная мармуровая глыба. Тут былі павешаны ўдзельнікі паўстання 1863 года. Сярод іншых імёнаў на мармуры залатымі літарамі напісана імя Кастуся Каліноўскага.

Дзеці прыносяць сюды кветкі. Літоўскі народ шануе памяць вялікага беларускага рэвалюцыянера-дэмакрата.

А колькі ёсць невядомых магілак, у якіх, як браты, спачываюць беларус і літовец, рускі і ўкраінец, якія разам адважна пралівалі сваю кроў за свабоду і шчасце народаў.

Гора правярае цвёрдасць, моц, сталасць братэрства. Гады нягод загартоўваюць, узмацняюць сапраўдную дружбу.

І зразумела, калі цябе напаткае бяда—хто першы прыбяжыць на дапамогу? Прыбяжыць твой бліжэйшы сусед, вядома, калі ён сапраўдны сябра.

А калі небяспека пагражае абодвум—абодва суседы яднаюць сілы...

Так здаўна рабілі і літоўцы з беларусамі.

Нашы народы яднае даўгавечная, непарыўная дружба.




А. Жукаўскас ля доміка, дзе нарадзіўся Янка Купала.
Фота Ул. КРУКА.

Выйдзеш вечарам на прыціхлыя вуліцы Вільнюса і, здаецца, чуеш прыглушаныя часам крокі Кастуся Каліноўскага, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка, Піліпа Пестрака...

Метафара? І ўсё ж гэта так. Гэтыя і многія другія беларускія дзеячы пакінулі ў Вільнюсе глыбокія сляды, пакінулі след у сэрцах літоўцаў, і час не згладзіць гэтых слядоў, рэха іх крокаў яшчэ доўга будзе гучаць у вільнюскіх мурах.

Вось на вуліцы імя Людаса Гіры памятная шыльда беларускаму паэту Янку Купалу. Цудоўнае ўвекавечанне імёнаў двух паэтаў—старых таварышаў—адзін побач з другім, як быццам адначасова ўшаноўвала іх шматгадовую дружбу: Людас Гіра ўжо ў 1910—1913 гадах перакладаў і друкаваў вершы Янкі Купалы.

Янка Купала, жывучы ў Вільнюсе, наведваў літоўскія літаратурныя вечары, у літоўскім клубе «Рута» была пастаўлена яго п'еса «Паўлінка». У Вільнюсе была выдадзена яго драма «Раскіданае гняздо» і зборнікі вершаў «Шляхам жыцця», «Адвечная песня».

Тое ж самае хочацца сказаць і аб паэзіі Аркадзя Куляшова.

Расяная чысціня, сонечная шчодрасць! Іх выпраменьвае кожная старонка кніжкі вядомага паэта, дастойнага вучня і прадаўжальніка вялікіх беларускіх Баянаў.

Паэзія Аркадзя Куляшова ўжо даўно палыхае над прасторамі нашай Радзімы. Яна нясе людзям усе колеры вясёлкі, глыбіню роздуму, багаты вопыт жыцця, напал барацьбы, мужнасць ідэйнай і маральнай стойкасці.

# ДРУЖБЫ

Як сапраўдны трубач вялікага паходу, Аркадзь Куляшоў жыве на плыні часу, адчувае кожны рух душы свайго народа, яго жаданні, яго волю, яго думы. З гэтай вышыні народнага песняра ён бачыць далёка. Ці не таму паэзія Аркадзя Куляшова ўражвае нас шырынёй дыяпазону, глыбінёй паэтычнага мыслення, духам сучаснасці?

Вечны пошук стаў жыццёвым, творчым прынцыпам Аркадзя Куляшова. У гэтым яшчэ раз пераконваешся, калі чытаеш чатырохтомнік паэта. І зусім справядліва гаворыцца ў прадмове аб непаўторным характары твораў Аркадзя Куляшова, якія напісаны ў розныя гады. І сапраўды ён умее прыслухоўвацца да эпохі, трымаць руку на пульсе гісторыі, адчуваць неспакойны рух падзей, то таямніча ціхіх, то ўраганных. «І гэта не можа не адбівацца на творах паэта,—як гаворыць у гэтай прадмове Пятрусь Макаль,—на кірунку яго пошукаў, на характары тых выяўленчых сродкаў, якія ён бярэ на ўзбраенне. Прасочваючы творчы шлях паэта, бачыш, з якой здзіўляючай дакументальнай дакладнасцю і скульптурнай рэльефнасцю ўвасабляўся ў яго творах дынамічны вобраз эпохі і вобраз сучасніка ў іх няспынным развіцці і руху».

Усё багацце творчасці Аркадзя Куляшова адчуваеш, перачытваючы і ўкраінскую кніжку «Выбранага» народнага паэта Беларусі. Нашым паэтам удалося захаваць у сваіх перакладах яшчэ адну з самых характэрных рыс свайго пабраціма—арганічнае душэўнае адзінства асабістага і грамадзянскага абавязку. Цэласнасць свяшчэннага пачуцця, прыкметная яшчэ ў юнацкіх вершах Аркадзя Куляшова, стала душой яго паэзіі—ад лірычнай мініяцюры да вялікіх паэм навальнічных і пасляваенных гадоў. І таму, хоць большасць твораў Аркадзя Куляшова—аўтабіяграфічныя, яны нясуць у сабе моцны зарад жыцця народнага, шырыню яго інтарэсаў, прыгажосць яго рэвалюцыйнага абнаўлення...

Аб творчасці Аркадзя Куляшова напісана нямала даследаванняў, артыкулаў не толькі ў Беларусі, якую ён так маляўніча ўслаўляе. Крытыкі, літаратуразнаўцы многіх рэспублік прысвяцілі яму не адну сваю работу. І нашы ўкраінскія даследчыкі часта звяртаюцца да яго паэзіі, шукаюць сакрэты яго вечнай маладосці, якая не страчвае ўлады над хуткім часам, хвалюе не адно пакаленне чытачоў і адрасавана новым пакаленням.

У названых творах сказана і аб глыбокай любві паэта да Украіны, да яго гісторыі, народнай творчасці і літаратуры. У творчасці Аркадзя Куляшова адчуваецца ўплыў геніяльнага слова Тараса Шаўчэнкі. Кабзара паэт палюбіў з дзяцінства. Ён пераклаў на беларускую мову шмат шаўчэнкаўскіх вершаў. Перакладае ён і творы сучасных украінскіх паэтаў—натхнёна і па-майстэрску. Але, мабыць, самым выдатным укладам Аркадзя Куляшова ў скарбніцу братэрства культур з'яўляецца яго пераклад «Энеіды» І. П. Катлярэўскага.

Паэзію Аркадзя Куляшова любяць на Украіне. Яна блізкая сэрцам воінаў, якія пасябравалі ў гады вайны, яна хвалюе маладых сейбітаў і будаўнікоў, яна чаруе юных улюбёнасцю паэта ў родную Беларусь, у сілу братэрства народаў Радзімы, у яе чырвоны сцяг.

...Перада мной ляжаць два тамы «Анталогіі беларускай савецкай паэзіі». Адкрываю першы том. Янка Купала, Якуб Колас... Натхненне, глыбіня, народнасць. Прыгадваецца: каля сарака гадоў назад газета «Праўда» пісала пра Якуба Коласа, што ён жыў усімі думкамі, горам і радасцю свайго народа, глыбока пранікнуў у таямніцу народнай душы, народнага характару, што ён ярка адчуў і перадаў захапленне роднай прыродай, перадаў жаданні і імкненні свайго народа...

Гэтымі словамі можна ахарактарызаваць усю беларускую паэзію—песню, напоўненую кіпучым жыццём і шчырасцю. За гэта і шануюць яе ў нас на Украіне.

---

Пазней, калі Вільнюс акупавалі польскія паны, гэтая дружба з беларусамі не згасла.

Літоўскія паэты, што жылі ў Вільнюсе, перакладалі вершы Максіма Танка, Валянціна Таўлая, Ніны Тарас і іншых беларускіх паэтаў, беларускія паэты перакладалі творы літоўскіх паэтаў.

А хто з вільнюсцаў не ганарыўся і не радаваўся беларускаму хору Рыгора Шырмы?

З другога боку, сталіца Беларускай ССР—Мінск—адыграў значную ролю ў культурным жыцці літоўцаў. Пасля 1920 года ў Мінску склаўся гурток літоўскай творчай інтэлігенцыі, выпускалася літоўская газета «Чырвоны ратай», выдаваліся кнігі.

І ўсё ж такі, былі часіны, калі гэтыя сувязі быццам бы перарываліся. Хаця нас яднаді Нёман і Вілія, Меркіс і Белая Ганьча, былі сілы, якія стараліся нас раскалоць: гэта кулакі і памешчыкі, ксяндзы і фабрыканты...

Гэта ўлады розных масцей і адценняў, незалежна ад таго, хто быў на іх чале: князі ці каралі, цары ці прэзідэнты...

Усё гэта ў мінулым. І змрочныя дні, якія прайшлі, ніколі не вернуцца.

Пасля таго, як Літва ўвайшла ў вялікую сям'ю савецкіх народаў, дружба наша па-сапраўднаму ўмацавалася, стала цеснай і сардэчнай.

Нядаўна ў Вільнюсе я сустрэўся з Максімам Танкам. Я напомніў яму пра вуліцу Канарскага, дзе ён некалі жыў. Колькі там было цікавых сустрэч, колькі выказана цёплых сяброўскіх пачуццяў, колькі нарадзілася добрых твораў!

— Трэба будзе абавязкова схадзіць — наведаць той прытулак, — сказаў Танк.—Ды і ўсе іншыя, дзе прайшлі маладыя гады.

Лёгка цяпер на душы ў паэта. Такія далёкія тыя часы з паліцыяй і шпікамі...

Далёкія, але і незабыўныя часы, калі турмы гартавалі дружбу барацьбітоў за свабоду—Піліпа Пестрака і Максіма Танка, Міхася Машары і Міхася Васілька...

Калі ў 1940 годзе ў Літве была аднаўлена Савецкая ўлада, зніклі і ўсе штучныя бар'еры, што пабудавала буржуазія паміж двума братнімі народамі.

Ужо ў 1940 годзе Пятрас Цвірка і Антанас Венцлава накіроўваюцца ў Мінск з нагоды 35-годдзя творчай працы Янкі Купалы.

Наступнай вясной Янка Купала, Якуб Колас і іншыя дзеячы беларускай культуры наведалі Вільнюс, пазнаёміліся з дасягненнямі Савецкай Літвы, з яе светлымі перспектывамі. Гутарка ішла аб паглыбленні дружбы, аб перакладах і выданнях кніг пісьменнікаў абодвух народаў. Але тое, што было задумана, не магло ажыццявіцца: пачалася вайна...

І вось беларусы і літоўцы, як і ў мінулыя часы, побач з рускім народам узняліся на барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

На жаль, пакуль што недастаткова даследавана і апісана баявая дружба літоўскіх і беларускіх партызан, агульная іх барацьба. Змаганне супраць ворага яшчэ болей зблізіла беларускую і літоўскую інтэлігенцыю, якая выехала ў глыб савецкай краіны. Пятрас Цвірка, Антанас Венцлава, Костас Корсакас з вялікай цеплынёй пішуць аб сустрэчах у Маскве з Янкам Купалам, Якубам Коласам і іншымі беларускімі пісьменнікамі.

Саламея Нерыс ужо ў першыя дні вайны пераклала і абнародавала праз радыё нарыс Янкі Купалы «Нямецкі фашызм—злейшы вораг беларускага народа».

Вярнуліся ў Мінск беларусы, вярнуліся літоўцы ў Вільнюс. Абодва гарады былі разбураны. Аднак не была разбурана іх вера ў светлую будучыню. .

Цяпер ужо адбудаваны і Вільнюс, і прыгажун Мінск—велічная сталіца Беларусі. Рэспублікі квітнеюць, людзі здзяйсняюць велічныя планы. І зноў, як калісь, мацуюцца сяброўскія сувязі.

Ствараць і здзяйсняць, дружыць і спаборнічаць, хто лепей, хто хутчэй і яскравей — такі покліч часу.

І наша дружба сёння—гэта ўжо не тыя амаль непрыкметныя і ціхманыя рэчкі мінулага, а магутная плынь, якая няспынна імчыць нас да агульнай, светлай і велічнай мэты—да камунізму.



## Сцяпан ШЧЫПАЧОЎ
Расія

### «АЎРОРА»

Свінцова-шэрая, з адценнем
дымавым,
яна стаіць, як горды гмах
з металу.
У ноч кастрычніцкую
выстралам адным
праславілася... і легендай стала.
Калі той выстрал грымнуў
над Нявой,
гул пракаціўся па планеце
ўсёй!

Закрыўшыся ад гоману вясны,
стаяць на рэйдах крэйсеры,
лінкоры.
Чужыя землі страшачы, яны
сваім гаспадарам яшчэ
пакорны,
і людзям цяжка адгадаць:
каторы
там будзе іх «Аўрорай».

Пераклала Е. ЛОСЬ.



## Берды КЕРБАБАЕЎ
Туркменія

### ЛЕНІН

Праваўдырам усім спрадвеку
Вядзецца лік да нашых дзён,
Ды не было шчэ чалавека
Людзям раднейшага, чым ён.

Наперакор адвечным звычкам,
Адлегласцям наперакор
Ён змог з'яднаць рабочым
клічам
Людзей усіх мацерыкоў.

І тым вялікі родны Ленін,
Што ён—натхняльнік нашых
дзей,
Суровай праўдаю нятленны,
Жыве заўжды сярод людзей.



## Міхайла ТКАЧ
Украіна

### МАЦІ-АЙЧЫНА

Багат я хатай з доляю
крылатай,
Жыве са мною ўся мая радня,
А маці мая дочкамі багата,
Сыноў калыша пад зенітам дня.

Багат я хатай, крытай сінявою,
Барвовы гарызонт—яе парог.
Паміж лясамі, небам,
збажыною
Да хаты шлях з пятнаццаці
дарог.

Багат я хатай, чыстай перад
светам,
Шчыруе маці ў хаце ля стала,
Сяброў вітае ласкавым
прыветам,
Для недругаў—няма ў душы
цяпла.

Не раз слязамі бура вокны
мыла,
Грымелі над калыскаю грамы.
Ды нам нішто жыцця
не ўкараціла,
Бо захінула маці нас грудзьмі.

З яе любові ўсе мы выраслі,
З яе шчытом мы зводзілі
масты,
І ў час бяды сцяной за маці
сталі
Ў адным Саюзе—сёстры
і браты.

Мы ведаем, з якога выйшлі
роду,
І з якой хаты ўбачылі свой
дзень,
У хаце той жывуць браты-
народы,
Адзіным шляхам маці іх вядзе.

Пераклаў Хв. ЖЫЧКА.

## Сырбай МАУЛЕНАЎ
Казахстан

### СЛОВА ДРУГА

Кветкі, кветкі!
Колькі кветак
Мы з сабою ў дарогу ўзялі—
Кветак поўдня,
Гарачага лета,
Казахстанскай гасціннай зямлі.

Самалёт наш
Пад сонцам высока
У бяскрайняй ляціць сіняве.
Праз туманную
Сетку аблокаў
Яго цень па зямлі плыве.

Хоць і тоўпяцца
Хмары наўкола,
А мы бачым праз волава хмар
Гэты край,
Што ўславіў Колас,
Тую хату,
Дзе вырас пясняр.

З рук дзявочых
Спрабуем хлеба,
І адразу я сэрцам адчуў
Над сабой беларускае неба,
І далей я ляцець не хачу.

Кветкі, кветкі!
З палёў Беларусі
Разам з кветкамі Алма-Аты.
Па-казахскаму я ганаруся
Гэтым святам,
Мае браты!

Баль асенні
Лістоў кляновых,
Але радасна ў нас на душы.
І такія просяцца словы,
Хоць сягоння
Вершы пішы.

Пераклаў М. ХВЕДАРОВІЧ.



ПАЧУЦЦЕ СЯМ'І АДЗІНАЙ



Сяброўская сустрэча. Калмыцкі пісьменнік Д. Кугульцінаў, І. Сварнык (Кіеў), І. Шамякін.

50 год утварэння СССР

# Эдзі АГНЯЦВЕТ

# ЛЯ ГАРЫ МАШУК

НАДВЯЧОРКАМ слухаю па радыё дзівосную мелодыю — вальс Арама Хачатурана да драмы Лермантава «Маскарад». І адразу прыгадваецца нядаўняе пятае Лермантаўскае свята паэзіі.

Пяцігорск. Пяцігор'е — гучыць,
як сузор'е.

Пушкін і Лермантаў — два сонцы, дзве вяршыні рускай паэзіі.

Паэты Грузіі і Дагестана параўноўваюць іх з вяршынямі Эльбруса і Казбека.

«Каўказ узяў поўную даніну з музы нашага паэта»,—пісаў Бялінскі пра Лермантава. Паэт, які любіў Расію вялікай, сыноўняй любоўю, быў назаўсёды зачараваны гарамі Каўказа і Закаўказзя. Горы, паводле яго прызнання, прывучылі паэта да неба.

**Як салодкую песню**
**Айчыны маёй,**
**Люблю я Каўказ...**

Ці не таму пятую восень збіраюцца ў Пяцігорску паэты розных народаў?

Мы сустрэліся ля доміка Лермантава: рускія паэты Л. Таццянічава, М. Агашына, Ус. Азараў, М. Сяргееў, украінец М. Сынгаеўскі, з Калмыкіі — народны паэт Д. Кугульцінаў, Ц. Бамбееў, пісьменніца з Пяцігорска Н. Капіева, паэты з Чэчэна-Інгушэціі — Р. Ахматава, Д. Яндзіеў, з Дагестана — народны паэт Ю. Хапалаеў, Р. Рашыдаў, паэты Стаўраполля А. Якімцаў, В. Ашчаулаў. Усе шкадуюць аб тым, што няма Іраклія Андронікава. Але, хворы, ён прыслаў з Ленінграда палымяную тэлеграму.

Домік Лермантава... Тут незвычайна хвалюе ўсё: салдацкі, просты ложак трагічна загінуўшага паэта, куфар. Вось крэсла і стол, прывезеныя з пецярбургскай кватэры. А ў пярэднім пакойчыку — пераносны столік. Лермантаў выносіў яго на тэрасу флігеля і пісаў, натхнёны небам Каўказа.

Глядзіш і нібыта нанава адкрываеш для сябе Лермантава. З новай сілай трывожаць душу радкі, напісаныя дваццацішасцігадовым паэтам, які любіў радзіму «любоўю трапяткою».

**Люблю дымок на раздарожжы,**
**Агеньчык, што расклаў абоз,**
**І на пагорку ў жоўтым збожжы**
**Сям'ю бялявую бяроз.**
**З увагай, многім не знаёмай,**
**Гляджу на поўнае гумно,**
**На хату, крытую саломай,**
**І з акяніцамі акно...**

(Пераклаў А. Куляшоў).

Цікавая дэталь: у музеі захоўваецца дзіцячы малюнак Лермантава. Ён быў хваравітым хлопчыкам, бабуля прывезла яго лячыцца ў Пяцігорск. Пад малюнкам — подпіс на французскай мове: «13 чэрвеня 1825 года. Гарачыя воды.»

А намаляваны — блакітныя горы і ветразь на моры, хоць у Пяцігорску няма ніякага мора! Ужо тады ў дзіцячай фантазіі ўзнікаў вобраз адважнага ветразя, якому суджана было стаць сімвалам Лермантаўскага генія.

**Б'е вецер, хваля завывае,**
**І мачта гнецца і рыпіць;**
**Ды не! Ён шчасця не шукае**
**І не ад шчасця прэч бяжыць!—**
**Пад ім струмень святлей за**
**просінь,**
**Над ім прамень нябесны той:—**
**А ён, бунтоўны, буры просіць,**
**Нібыта ў бурах ёсць спакой!**

(Пераклаў А. Куляшоў).

На двары, каля Доміка, — маладое арэхавае дрэва. «Сын таго дрэва, якое расло пры Лермантаве»,—кажа дырэктар музея П. Е. Селягей. Павел Еўдакімавіч працуе тут дваццаць два гады. Паводле яго пявучага вымаўлення, адразу адчуваецца ўкраінец. У яго ным сэрцы любоў да Тараса Шаўчэнкі шчыра сябруе з любоўю да Лермантава. Таму з кожным годам музей папаўняецца ўсё новымі, рэдкімі экспанатамі.

Вось, напрыклад, арыгінал выдатнай карціны Лермантава «Крыжовая гара» (масла). Карціна трапіла ў музей у 1971 г. Але якім чынам? Парыжскі балетмайстар С. Ліфар знайшоў яе ў 1968 годзе ў Фінляндыі. Пасля доўгіх перагавораў ён згадзіўся перадаць яе ў Расію для рэстаўрацыі і, нарэшце, падарыў савецкаму галоўнаму архіўнаму ўпраўленню. Нямала энергіі пайшло, каб «перавабіць» карціну ў Домік Лермантава.

Па асацыяцыі ўспаміналася кіпучая дзейнасць Уладзіславы Францаўны Луцэвіч у музеі Янкі Купалы.

А тут адбываецца дзіўная з'ява: падыходзіць да мяне інгушскі паэт Джэмаладзін Яндзіеў і кажа: «А я ўспомніў Янку Купалу. Мы ехалі разам у адным купэ з Арменіі са свята народнага эпасу «Давід Сасунскі». Я ведаў паэзію Купалы, захапляўся яго вершамі. А тут, у дарозе, блізка ўбачыў яго. як чалавека. О, гэта быў вялікі інтэлігент! Уважлівы, разумны, чулы. Прасіў мяне чытаць вершы на маёй роднай мове. Мне здалося, што на вачах Купалы з'явіліся слёзы, калі я чытаў...»

Д. Яндзіеў гаворыць горача, з захапленнем. І ў Доміку Лермантава ажывае вобраз народнага паэта Беларусі. Недарма Лермантаўскае свята назвалі святам братэрства, дружбы!

Як вялікае мора збірае ручаі і рэчкі, так паэзія вялікага рускага паэта прыцягвае да сябе паэтаў з розных куткоў нашай краіны.

Успомніліся пераклады з Лермантава, зробленыя Якубам Коласам, — пранікнёныя, па-коласаўску філасофскія.

Успомнілася шчырае слова з аўтабіяграфіі Максіма Лужаніна: «І яшчэ адзін сябар маленства. Увайшоў у душу пазней, але як намоцна атаўбаваўся там! Томік, а на ім наўкасы вялікімі чорнымі з золатам літарамі выціснута: Лермантаў. Ён пайшоў са мной з маленства, не выпусціў з-пад улады і тады, калі зачаравала, перш за ўсё роднасцю сваёй, слова Купалы, калі прывязаў да сябе невідочнымі ланцугамі Шаўчэнка, загрымеў літаўрамі верша Маякоўскі, шчымліва заспяваў Ясенін, рэзкаю віднатою пачуцця ўдарыў Блок».

Мне вельмі прыемна было перадаць Доміку Лермантава падарунак ад нашага народнага паэта Аркадзя Куляшова — томік перакладаў выбранай паэзіі Лермантава. Выдатныя пераклады А. Куляшова былі горача прыняты на сваце. На вялікі жаль, нельга было задаволіць просьбы многіх гасцей і чытачоў, якія хацелі мець беларускі томік Лермантава, выдадзены, дарэчы, з тонкім густам. Кніга даўно разышлася. Ці не надышоў час яе перавыдаць?

Паэзія Лермантава з'яўляецца невычэрпнай крыніцай натхнення для кампазітараў. Каля дзвюх тысяч кампазітараў свету напісалі музыку на яго творы. Даргамыжскі, Глазуноў, Рахманінаў... Чайкоўскі збіраўся ў сааўтарстве з А. П. Чэхавым стварыць оперу паводле аповесці «Бэла». Абодва былі глыбока закаханыя ў паэзію Лермантава. У лісце да Суворына Чэхаў пісаў: «Учора быў у мяне П. Чайкоўскі, што мяне вельмі ўсцешыла: па-першае, вялікі чалавек, а, па-другое, я страшэнна люблю яго музыку, асабліва «Анегіна». Хочам пісаць лібрэта».

На розных музычных мовах гучаць творы Лермантава. Хачатуран, Тактакішвілі, Багатыроў стварылі рамансы, музыку да спектакляў.

Музыка гучала ў час паэтычнага свята ў Пяцігорску.

Там, пад небам Каўказа, мы неяк асабліва востра адчулі, што Лермантаў належыць усім народам. Глыбока рускі паэт быў па сваёй сутнасці інтэрнацыяналістам.

Дзіву даешся, як мог ён (амаль юнак!) дасканала ведаць і любіць — не абстрактнай любоўю — усю нашу зямлю: ад рускага Барадзіна, ад Баярына Оршы (з беларускім Дняпром, з трысцём і высокім борам), ад Літвінкі (з ціхімі далягладамі Літвы) да светлых вышынь Казбека і Эльбруса!

# «ЫСЫХ» — ПА-ЯКУЦКУ СВЯТА

САМАЛЁТ ляцеў насустрач дню.

Цяпер, калі мінула некалькі гадзін, — часам разрывалася беласнежная коўдра воблакаў і праплывала ўнізе зямля: павуцінкамі разбягаліся чыгуначныя пуці, паблісквалі сінявой круглыя азярыны, дымілі фабрычныя каміны. І можа толькі тут, знаходзячыся ў «ІЛе-18», Уладзіслаў Мартынавіч Галай і Яўген Пятровіч Мельнічэнка як бы ўпершыню зразумелі, што такое адлегласць.

З Масквы на Якуцк самалёт вылецеў позна вечарам. Мора агнёў ззяла далёка ўнізе. Раўнамерна працавалі матоcы, міналі гадзіна за гадзінай, застаўся ззаду Краснаярск, а да Якуцка яшчэ было няблізка. І тады сакратар партыйнага камітэта калгаса «Ленінскі сцяг» Яўген Пятровіч Мельнічэнка выказаў уголас: яму, сакратару райкома, відаць, што кожны ў сэрцы носіць яшчэ з тых школьных гадоў, калі абводзілі ўказкай на геаграфічнай карце межы нашай неабсяжнай Краіны Саветаў:

— Якая ж вялікая наша Радзіма!

Яны ляцелі ў чэрвені з далёкай Лоеўшчыны па запрашэнню якуцкіх сяброў на святкаванне 50-годдзя Якуцкай Аўтаномнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Як і чым вымераць дружбу? Тую дружбу, якая саграе чалавека за тысячы кіламетраў ад роднага дому? І калі нараджаецца гэтая дружба, што з гадамі ўсё мацнее, праходзіць праз чалавечыя сэрцы, праз лёсы людзей і народаў?

У суровым 1943 годзе, калі войскі Савецкай Арміі фарсіравалі Дняпро ў раёне беларускай вёскі Дзяражычы, якут Фёдар Кузьміч Папоў здзейсніў гераічны подзвіг. Аб гэтым ва ўзнагародным лісце гавораць скупыя радкі.

...На правым беразе Дняпра ў жорсткай бойцы з ворагам Фёдар Папоў знішчыў дваццаць трох фашыстаў, захапіў нямецкі кулямёт і агнём з яго прыкрываў пераправу сваёй роты. Два дні — другога і трэцяга кастрычніка — праціўнік праводзіў азвярэлыя контратакі: стараўся знішчыць жменьку смельчакоў, што замацаваліся на крутым беразе і ўтрымлівалі маленькі «пятачок» зямлі. Фёдар Папоў пранік на фланг праціўніка і нечаканым агнём зноў асабіста знішчыў да 50 фашыстаў. Варожыя контратакі захлынуліся...

А калі змучаныя няспыннымі баямі з пацямнелымі ад парахавога дыму тварамі байцы пайшлі далей вызваляць шматпакутную зямлю, не было з імі Фёдара Папова. Ён застаўся ляжаць каля вёскі Дзяражычы, у той зямлі, якая так шчодра паліта салдацкай крывёю. Засталіся навечна тут, ля Дняпра, пад навіссю купчастых лозаў і акацый і многія рускія, украінцы, таджыкі, беларусы і казахі.

У 1969 годзе, калі на радзіме Героя Савецкага Саюза Фёдара Папова адзначалася 25-годдзе прысваення саўгасу імя героя, у Якуцію ездзіў цяперашні загадчык кабінета паліт-асветы Лоеўскага райкома партыі Сяргей Міхайлавіч Пінчук. Сам чалавек выключнай храбрасці, пра што сведчаць шматлікія яго баявыя ардэны і медалі, ён вёз у далёкі якуцкі наслег запаяную прабірку з вадой і шкатулку з зямлёй. З вадой з Дняпра і зямлёй, узятай ля Дзяражыч...

Калі якуты дачуліся, што з Беларусі прыехаў чалавек, каб ушанаваць памяць іх земляка, яны ішлі на сустрэчу з ім з далёкіх наслегаў. У час аднаго выступлення Сяргея Міхайлавіча якут, які абапіраўся на мыліцу, раптам усхвалявана пачаў нешта гаварыць сябрам.

— Што? Пра што ён пытаецца?— пацікавіўся Сяргей Міхайлавіч.

А чалавек ужо крочыў да яго. Глуха стукала мыліца аб падлогу і ў яго вузкіх чорных вачах бліснула сляза. Бывае ж такое!

— Таварыш капітан! Таварыш камбат! — хрыплым ад хвалявання голасам па-руску прамовіў якут.

Тут, за тысячы кіламетраў ад роднага Лоева, беларус Сяргей Міхайлавіч Пінчук, які дэмабілізаваўся ўжо ў званні маёра, сустрэў аднапалчаніна якута...

Пра ўсё гэта ўспаміналі і Уладзіслаў Мартынавіч Галай і Яўген Пятровіч Мельнічэнка, калі пасля з Якуцка дабіраліся ў Мягіна-Кангаласкі раён — на радзіму героя. Сярод сустракаючых былі другі сакратар райкома партыі Іван Гаўрылавіч Цімафееў і пляменнік Фёдара — намеснік старшыні райвыканкома Міхаіл Ягоравіч Папоў.

У тыя чэрвеньскія дні, калі Якуція адзначала сваё 50-годдзе, на сцягу рэспублікі побач з ордэнам Леніна заззяў ордэн Кастрычніцкай Рэвалюцыі.

Было нямала памятных сустрэч, калі сэрцы людзей адкрываліся ў шчырай, задушэўнай гутарцы. Лаяўчанам прыходзілася прывыкаць да сапраўды астранамічных лічбаў, якімі тут аперыравалі як нечым самым звычайным. На тэрыторыі толькі аднаго Мягіна-Кангаласкага раёна, куды прыехалі госці, можна размясціць такія краіны, як Ліван і Люксембург. Ды і не дзіўна: Якуція ж — сёмая частка СССР. Ад Байкала да Ледавітага акіяна цягнулася яна. Толькі запасаў драўніны, як падлічылі вучоныя, тут 11 мільярдаў кубічных метраў. А славутыя якуцкія алмазы? А золата? А пушніна? А ін-



Эдуардас МЕЖЭЛАЙЦІС

Літва

# РУКІ

Вы бачылі дрэва, віхураю гнанае?
Амаль без вагі, ад зямлі
адарванае,
У спрэчцы з вятрамі лунае наўкос,
Галінамі прагне дастаць да нябёс.
П'е лівень яно,
і вада па галлі
Сцякае патокамі кропель
астуджаных,
Сцякае,
як быццам бы пот
па натруджаных
руках,
што змяняюць аблічча зямлі.
Парэпалі і загрубелі галіны.
Ламота ў галінах. Трымценне
ў лістве.
Ды дрэва не хоча спачыць
ні хвіліны:
Пакуль у рабоце —
датуль і жыве.
Ляціць, распахнуўшы зялёныя
крыллі,
Туды, дзе згушчаюцца хмар
груганы.
Ды вось гарызонт груганы ўжо
адкрылі —
І зноўку блакітныя далі відны.
Вы бачылі дрэва?
Я горда ўздымаю
Цяжкія, нібыта сукі,
кулакі.
Вось дзве працавітых свабодных
рукі.
Я вынік ад рук працавітых
прымаю —
Свабодных!
За ўсё даражэй ім — свабода
Араць і касіць,
І ўраджаі здымаць,
І хлеб
На свабоднай далоні трымаць,
Што ўзрошчан свабодна
Рукамі народа.
Хай птушак далоні мае, як гаі,
Ратуюць ад спёкі нясцерпнай
і граду.
Світальнае сонца
абняць яны рады.

50 год утварэння СССР



# КАХАННЕ

Аляксей КУНДЗІЧ

Украіна

АПАВЯДАННЕ

1.

ТЫСЯЧЫ, тысячы сваіх і гасцей снавалі па ашчадна прыбраных залах новага цэха, але іх, гэтых дваіх, адзін раз пабачыўшы, ужо нельга было не заўважыць сярод мноства людзей — такая чароўная была, так кідалася ў вочы, так захапляла іх маладосць і, здавалася мне, іхняе каханне.

Свята разгаралася, паступова замяняючы будзень. Яшчэ толькі засінела неба ў шкляных прасветах над цэхамі, а ззянне лямп і пражэктараў ужо грала ў свежапафарбаваных серабрыстых канструкцыях і напаўняла залу той асаблівай светлай урачыстасцю, якая бывае ў тэатрах і абуджае прадчуванне святочных радасцей; яшчэ ў бакавых прагонах працавалі новазапушчаныя волаты-станы; яшчэ дагружаўся эшалон новай прадукцыі адбудаванага завода — для Масквы, а будаўнікі і заводскія кадравікі незвычайна шыкоўныя і гэтак жа незвычайна далікатныя і паважнелыя інжынеры, майстры і стаханаўцы ўжо прагульваліся ў плячыстых касцюмах пад руку з надушанымі жонкамі, са старымі бацькамі і з мітуслівым патомствам; ужо з'язджаліся госці з установ і заводаў, прыбывалі дэлегацыі з арміі, з гарадоў, са сталіцы; ужо недзе за заслонай імправізаванай сцэны аркестры наладжвалі інструменты, і калі ў будзень пад дахамі можна было бачыць толькі верхалазаў, дык цяпер на падкранавых бэльках, на рампах кранаў, на розных выступах грудзілася заводская моладзь, прагнучы захапіць месца на вышыні свайго становішча. Хадзілі чуткі, што меліся прыляцець Лемешаў, Уцёсаў, Патаржынскі і Вольгемут — тыя, што Карась і Адарка, — і ледзь не Тамара Цэрэтэлі, якая яшчэ на грамафонах... Кінематаграфісты раз за разам засвечвалі свае яскравыя сонцы.

Адным словам, рабочы будзень яшчэ не склаў інструментаў, а свята ўжо ўваходзіла ў свае правы, калі з'явіліся гэтыя двое — смуглявы хлапчына з крылом чорнай пасмы з-пад кепкі, гэткі складны здаравячок у рабочым касцюме, і яго сяброўка, бялявая дзяўчына ў вязанай ярка-жоўтай кофтачцы з карычневымі кутасікамі на грудзях.

Я ўбачыў іх у шырокім прасвеце цэнтральнай брамы. Не па-даросламу трымаючыся за рукі, далоня ў далоню, яны ўвайшлі, дакладней — убеглі ў цэх і падаліся праз залу, пра нешта жвава і вельмі зацікаўлена размаўляючы.

Было ясна, што яна таксама свая на заводзе: яе зусім не ўразілі, як уражвалі гасцей, ні гэтая зала цэха, такая вялікая, як даліна ў стэпе, ні пышная сцэна на даляглядзе, ні ўся святочная ўрачыстасць. Відаць, яна раней закончыла сваю работу і ездзіла пераапранууцца, а ён выйшаў сустрэць яе.

Нас усіх, гэтых тысяч, для іх не існавала. Яны беглі не па цэху, а па лузе.., не, не па лузе, а лесам, бо роўны шум стаяў вакол іх, зялёны шум верхавіння ў выхадны дзень, і яны былі толькі ўдваіх, поўныя перадсвяточных надзей, планаў, інтарэсаў, і ён спяшаўся падзяліцца з ёю навінамі, што накапіліся ў яго за той час, пакуль ён не бачыў яе.

А навін у гэтыя перадпускавыя дні паяўлялася шмат і з незвычайнай хуткасцю, і ў гэтых навінах — іх найбліжэйшае будучае. Павінны выступіць начальнікі і міністры — што, цікава, яны скажуць пра іх завяршальную працу? Накрэсліваюцца новыя маршруты для розных будаўнічых арганізацый — куды ж ім сцелецца дарога, пад якім небам, па якіх берагах, у якіх лясах ці гарах будуць яны ўспамінаць гэты завод і гэтыя пагодлівыя дні? Якія волаты будуць вось так паступова ўзнімацца з-пад іх рук, як узнімаўся гэты завод над ракою — іх гордасць і слава, што запішацца ў іхнія біяграфіі?.. Розныя чуткі былі яшчэ хвалююча няпэўныя, і ўсё ж такі не луг, не лес шумеў вакол іх, — што ім луг або лес! — вакол іх шумела свята вялікага завяршэння, іхняе свята... Хлапчына меў чым падзяліцца са сваёю сяброўкай.

Ён парывіста выкідваў руку, густыя цёмныя бровы яго так і гралі, аблічча мянялася. Увесь у цёмным, яшчэ не ўмыты з работы, будзённы, ён быў прыгожы красою мужнасці, жыццёвы імпэт свяціўся ў яго гарачых, загартавана чорных вачах. Гэта быў прыгожы хлопец, і калі дзяўчына кахала яго, то яна ведала, за што пакахала.

Сама яна была рослая, яшчэ не зусім сталая постаццю, але моцненькая, пругкая, пакрытая такім залацістым загарам, быццам адбіваўся на ёй колер яе жоўтай кофтачкі. Асабліва чароўнай была ў яе дзіцячая шчырасць блакітнавата-шэрых вачэй, даверлівая адкрытасць кожнага выразу яе пачуцця. Дзяўчына ўся выяўлялася ў тых лёгкіх і чароўных рухах, што бываюць толькі ў юнацтве, у адкрытай усмешцы ўсім тварам, у жэстах — яна жэстыкулявала блакітным томікам, які трымала ў левай руцэ, і нават ягонай рукой, якую трымала ў правай. У яе хадзе, у прыроднай ігры дзявочага твару і ўсёй постаці была такая натуральнасць і адкрытасць, быццам дзяўчына і не ведала, што існуюць чужыя, незнаёмыя людзі. «Залатая наша Машанька», — так яе назвалі ў адным надпісе на памяць, і гэта самыя дакладныя словы, бо яны былі падказаны шчырай прыязню. Напэўна, усе, хто акружаў яе, — у брыгадзе, у інтэрнаце, у кампаніі, — называлі яе гэтак пяшчотна: «Залатая наша Машанька»...

Смуглявы хлапчына і яго бялявая сяброўка ўбеглі ў цэх знізу, з заводскага скверу, і пайшлі праз залу паспешлівым напорыстым крокам, трымаючыся за рукі і ні на каго не звяртаючы ўвагі, захопленыя сваёй гарачай размовай; і ўсе, хто трапляўся ім на шляху — ад чорнарабочых да міністраў, — расступаліся перад імі, даючы ім дарогу. Не хапала толькі ганаровай варты.

Гэтак яны перамахнулі ўсю залу; на праходзе да стана Тандэм людзі не расступаліся; машына працавала, і натоўп стаяў шчыльнай сцяной. Тут сцішана размаўлялі, уважліва пазіралі на стан і пра нешта распытвалі чалавека ў скураным паліто, які стаяў за драцяным бар'ерчыкам.

Маладая пара затрымалася на хвіліну ззаду натоўпу, на два крокі ад яго, і стала прыслухоўвацца. Відаць было, што іх цікавіла не машына, а госці, гэтыя дзіўныя незнаёмыя людзі, якія ўпершыню бачаць стан Тандэм. Гэтак мастака на выстаўцы цікавіць не карціна, а наведвальнікі. Я бачыў, як пераглянуўся хлопец са сваёю сяброўкай і як яны ўсміхнуліся, калі жанчына з буклямі сказала высокаму мужчыне ў макінтошы, што ў гэтай машыне халодная сталь раскатваецца, як цеста на локшыну.

Але ў іх не было часу, іх усё клікала, вабіла, усё ў гэтым вечары, у заўтрашнім дні, у будучыні абяцала ім захапляючую цікавасць, радасць перамогі, — і яны не маглі доўга стаяць, пакіравалі за прасценак да суседняга прагону-залы, забыліся на гасцей і пайшлі, дакладней, пабеглі, трымаючыся за рукі, па цэху, як па лузе, як па лесе, у напрамку да стана рухомых нажоў.

Я прайшоў таксама ў той прагон і здаля праводзіў іх вачыма. І калі яны зніклі недзе каля шклянога свяцілішча Дэ-ікс-машыны, я толькі ўсміхнуўся, — хай уласная маладосць і мінула даўно, — блаславўляючы жыццё.

2.

РАБОТА ў цэху прыпынілася, і работнікі сталі ў кутках драцянога бар'ера на ганаровую вахту каля сваіх машын; зайгралі аркестры, загрукаталі сасновыя лаўкі па ўсім прасторы галоўнай залы, людзі пачалі збівацца ў асобныя купкі, і я падумаў з жалем, што, мусіць, ужо не пабачу сярод гэтых тысяч маладога хлапца і яго сяброўку.

А між тым я яшчэ раз сустрэў іх — у час раз'езду.

Калі я выплыў у людской лавіне, зрэдку дакранаючыся наскамі да зямлі, цераз адну з шырокіх брам цэха, на заводскім двары адбываўся карнавальны штурм крытых і адкрытых аўтобусаў, газаў, зісаў. Ноч была цёплая і ціхая. Усе заводы сягоння святкавалі, і чыстае неба так расквецілася буйнымі вераснёўскімі зоркамі, быццам стэп палавецкі ляжаў пад ім, а не першакласны камбінат сталі. Машыны адна за другой выкіроўвалі на асфальтавую магістраль, дзе ўжо мігцелі агні фар і лunalі песні.

Прывыкнуўшы ў гэтым горадзе да такіх вясёлых штурмаў, я знайшоў спадарожную трохтонку і вельмі камфартабельна ўсеўся на заднім борце. Ва ўсякім выпадку, я быў ужо ўпэўнены, што начаваць буду дома.

Шафёр завёў матор і грукнуў дзверцамі кабіны, як раптам нехта штурхнуў мяне ў спіну і нецярплівы дзявочы голас са смехам папрасіў:

— Дзядзечка, месца!

Я азірнуўся. Дзяўчына ў ярка-жоўтай кофтачцы з карычневымі кутасікамі на грудзях ухапілася рукой за борт, шукаючы, на што б ёй паставіць нагу.

— Дайце ж руку!.. Патрымайце кніжку!

Я дапамог ёй узабрацца ў кузаў, яна падзякавала, не глянуўшы на мяне, і камусьці на развітанне салютам узняла руку:

— Ёсць!

Смуглявому хлапчыне, відаць, было не па дарозе з ёю.

Машына рушыла. Дзяўчына, хіснуўшыся назад, схапілася за рукаў майго паліто і ўжо не адпускала яго аж да самага дому, хоць зусім і не заўважала мяне.

А тым часам я таксама за некага хапаўся і не ведаў, хто ён і што ён. Калі падаеш, няма калі знаёміцца і прасіць дазволу ўхапіцца за рукаў ці каўнер

Але гаворка тут не пра ветлівасць. Само юнацтва, задумаўшыся, стаяла каля майго локця, тварам да майго пляча, — я скоса глядзеў на яе, і хораша было ў мяне на душы. Шафёры, напэўна, спяшаліся дадому. Машыны ляцелі навыперадкі, на некаторых з іх моцна спявалі, а наша трохтонка так імчалася, што дрэвы на абочынах ахалі спрасонку і быццам падскоквалі; зорнае неба плыло над заводамі, над стэпам і ракою і таксама шумела роем сузор'яў, светлай смугою. Навокал, у людзей і ў прыроды, было свята, свята вялікіх энергій, акрыленых душ...

Не хацелася ўмешвацца з размовай у светлую задумлівасць дзяўчыны, не хацелася дакучлівымі запытаннямі парушаць настрой гэтых кароткіх хвілін начнога карнавальнага лёту, ды і непрыкметна праімчаліся мы некалькі кіламетраў.

Раптам дзяўчына падхапілася, крыкнула, каб пастукалі ў кабіну, і, калі машына прыпынілася, лёгка саскочыла на зямлю, проста ў абдымкі сяброўкі, якая, выявілася, ехала разам з намі і цяпер злезла збоку:

— О-о-ой, Леся!

— Золатка, і ты тут?!

Яны дурасліва закружыліся і загаманілі. Тым часам машына тузанулася, я схапіўся за суседа, дзяўчаты ўсё хутчэй і хутчэй сталі аддаляцца, і за некалькі секунд яны зніклі ў змроку.

А ў гатэлі, паклаўшы, як нічога і не было, на стол кніжку, я зразумеў, што гэты томік у блакітным пераплёце з залатым цісненнем, кампактны зборнік твораў Кальцова — рэч не мая. Дзяўчына ў ярка-жоўтай кофтачцы ўзнікла перад маімі вачыма: вось яна таропка ўскоквае ў машыну, трымаецца за мой рукаў, павіснуўшы над бортам, саскоквае і сустракае сяброўку. Ва ўсе гэтыя моманты што-небудзь запаўняла яе ўвагу, але як я мог дапусціць такую няўважлівасць?!

Мне надта было прыкра.

Я разгарнуў кніжку. На тытульнай старонцы было напісана па-руску, але з украінскім «і» ў трох месцах:

«Золотой нашей Машеньке

На память об историческом строительстве, где и ей впервые улыбнулась слава,

от дівчат палатки № 4 Оксаны, Римы і Дусі».

Гэта быў падарунак на развітанне. Магчыма, ён ёй даражэйшы за ўсякую кніжку... Мне стала яшчэ больш прыкра. І як шкада, што дзяўчаты не напісалі прозвішча. Знайсці гэтую самую «залатую Машаньку» сярод дзесяткаў тысяч будаўнікоў на будаўнічай пляцоўцы на пяцьдзесят квадратных кіламетраў у мяне не было надзеі. На той пляцоўцы слава ўсміхнулася многім: у гэтыя дні прэса адзначала сотні працоўных подзвігаў на будаўнічым камбінаце.

Адным словам, Машанька засталася для мяне поўным інкогніта. Спадзявацца можна было толькі на выпадак. Я паклаў томік Кальцова ў партфель, і з таго дня ён увесь час быў пры мне.

3.

У НОВЫХ цэхах пасля свята было непрывычна ціха і, здавалася, малалюдна. Нібыта падземным гулам гудзелі сотні матораў, глуха гурчалі станы, бясшумна білася зялёнае полымя ў печах тэрмаапрацоўкі, толькі палясквала сталь на ральгангах ды раз-пораз мігліва секла гільяціна рухомых нажоў. Людзі з большага толькі наглядвалі за працай машын, іх было мала, і яны губляліся ў прасторы цэхаў, за клецямі, печамі, трубамі. Будаўнікі ўжо выйшлі адсюль. Хоць, праўда, на дапаможных заводах камбіната яшчэ вяліся будаўнічыя работы, але гэта ўжо не было напрамкам галоўнага ўдару, як называлі газетчыкі будаўніцтва асноўных аб'ектаў. Народ раз'язджаўся групамі, брыгадамі, цэлымі арганізацыямі. Прыйшоў час збірацца і мне.

Неяк увечары я вяртаўся па насыпу з правага берагу. Змяркалася. Злева, як кінуць вокам, ляжаў шырокі плёс возера, утворанага насыпам, увесь у белых разводах пены; толькі на даляглядзе пад зеленкаватым небам вузенькаю стужкаю віднеўся стэп. На гэтай прасторы, нічым не стрыманы, гуляў шалёны вецер, ён біў у парэнчы моста, гудзеў і свістаў, намагаючыся знесці мяне ў чорную прорву, і сек пяском у твар. Цені ад рэфлектараў матляліся па скупа асветленым насыпу. Было холадна і бязлюдна. Таму я з задавальненнем убачыў, што мяне даганяе нейкі невысокі чалавек у шэрым плашчы.

Спадарожнік крочыў, не адварочваючыся ад шалёных удараў ветру, толькі кепку прытрымліваў рукой, каб не сарвала. Ён, было відаць, належаў да людзей, у жыцці якіх метэаралогія ролі не адыгрывае, і гэта залежыць не ад маладосці, а ад характару.

— Вясёлая пагодка пачынаецца, — сказаў я, калі ён параўняўся са мной.

Хлопец зірнуў на мяне з-пад рукі:

— Тут трапляецца такі ветрык. З пясочкам.

— Дарэчы, адкуль гэта нясе пяском? — спытаў я. — Вецер жа з возера, а да берагу некалькі кіламетраў. Хіба такія пясчынкі даляцяць з далягляду?

— Задача, — сказаў юнак. — Трэба думаць, што больш няма і адкуль. Ён памаўчаў, пару разоў дакрануўся рукой да падветранай шчакі.— Вось я зрабіў маленькае адкрыццё: гэта проста пылінкі... Не пясок, а пылінкі.

— Што ў ваша адкрыццё ўкралася памылка, дык гэта я адчуваю на ўласнай скуры: вельмі ж балюча сячэ, — сказаў я.

Ён засмяяўся:

— Бачыце... уласная скура найчасцей заводзіць у зман. Вельмі ненадзейны сведка. А што да памеру пясчынак, дык гэта проста: вецер моцны, і ў гэтым разгадка: хуткасць на масу — вось вам і сіла ўдару.

Так ці інакш, але спадарожнік паказаў сябе кемлівым і цікавым субяседнікам. Я не заўважыў, як насып з усім будаўнічым хаосам застаўся ў нас ззаду, а калі мы выбраліся на добра асветлены праспект Леніна і спадарожнік мой, зняўшы кепку, каб стрэсці з яе пясок, адкінуў чорнае крыло густой роўнай полькі, я нечакана ўбачыў перад сабой смуглявага хлапчыну з чорнымі палкімі вачыма, што быў з Машай на заводскім свяце.

Яму трэба было на трамвай. Мы селі на лавачку каля першага супынку і закурылі. Спачатку я проста падтрымліваў гаворку, а потым вынуў з партфеля блакітны томік і паказаў юнаку.

— Вам не даводзілася бачыць гэтую кніжку?

Ён, трошкі здзіўлены такім паваротам, зірнуў на мяне, потым на кніжку і павольна, як бы без асаблівай цікавасці, працягнуў руку.

— Дазвольце... — Узяў томік, адкрыў вокладку і засмяяўся радасным кароткім смехам:— Ха!.. Дык гэта вы?!

Напэўна, Машанька расказала яму сваю прыгоду.

— Вы ведаеце, чыя гэта кніжка?

— Ведаю. Аднае дзяўчыны са «Стальканструкцыі». Ёсць такая арганізацыя, можна сказаць, фірма. А... Чаму вы вырашылі, што я ведаю яе?

— Бачыў вас разам на свяце. Вы, напэўна, таксама са «Стальканструкцыі»?

— Не, я з «Поўдзеньэлектрамантажу».

— Дык вы можаце перадаць кніжку... Машы? Не ведаю, як яе прозвішча.

— Не.

— Не можаце?

— Яна паехала.

— Ну, адрас яе вы ж ведаеце, ва ўсякім выпадку.

Юнак паглядзеў на мяне доўгім позіркам.— чаму, маўляў, ва ўсякім выпадку? Ён убачыў мяне, няпрошанага, у садзе сваёй маладосці, і два пачуцці змагаліся ў ім: яго здзіўляла мая бесцырымоннасць і разам з тым хлопца пацягнула на інтымнасць. Надарыўся выпадак пачуць імя дзяўчыны яшчэ з адных вуснаў, успомніць яе яшчэ з адным чалавекам, калі ўжо гэты чалавек увайшоў у іхні сад і стаў нібыта сваім.

— У тым і справа, — сказаў хлапчына са смехам, каб не паказацца сумным: — Х-ха, не ведаю адраса.

Мяне гэта здзівіла.

— Як жа гэта здарылася? Напэўна, пасварыліся... з-за нейкай драбязы. Бывае.

— Не, чаго нам сварыцца! Проста тады не падумаў пра адрас... («А цяпер, нябось, падумаў, ды позна»,—здагадваўся я, хоць юнак гаварыў бадзёра, усміхаўся, з залішняй увагай паглядваючы, ці не ідзе трамвай). Што ж, ужо тройчы раз'язджаліся з розных будаўнічых пляцовак і не абменьваліся адрасамі. Так і цяпер... развіталіся.

Юнацтва! Шырокае, шчодрае, бестурботнае юнацтва! Не абмяняліся адрасамі, спадзеючыся зноўку з'ехацца на адной з пляцовак!.. Цяпер глядзі на пярэстую карту пяцігадовага плана і варажы, дзе ты сустрэнеш «Залатую Машаньку». Сапраўды, хіба можна згубіць сяброўку на такой, зрэшты, хоць і немалой прасторы, як Савецкі Саюз! Х-ха!

У парыве шчырага пачуцця я вырашыў быць больш адкрытым і на правах значна старэйшага сказаў ужо з інтымным дакорам:

— Адным словам, хлопча, вы згубілі Машаньку з вачэй.

Ён перавёў на мяне позірк, напэўна, заўважыў у сумнай усмешцы маю расчуленасць і перастаў быць абыякавым.

— Згубіў? Дык яна ж толькі ў водпуску!—выгукнуў з адценнем запытання, пераконваючы больш сябе, чым мяне.

— Ага... А з водпуску сюды?

— Не... Яе брыгаду кудысьці хочуць перакінуць. На вялікае будаўніцтва. Скажыце, калі ласка,—я вас бачыў на пляцоўцы з нашым рэдактарам, — вы не карэспандэнт?

І калі я пацвердзіў гэтую здагадку, хлопец пачаў распытваць, дзе б, на маю думку, магло распачацца вось цяпер вялікае будаўніцтва, бо ён з газет не можа зразумець: там ужо распачалося будаўніцтва, там ужо заканчваюць новыя цэхі, а як справы на такім вось заводзе, на такой вось пляцоўцы? Ці не бываў я там і там?

З таго, як ён шукаў па газетах, як распытваў мяне, мне стала ясна, што ён ужо зразумеў сваю памылку. Вопыт папярэдніх месяцаў, калі яны раз'язджаліся бязболесна, не думаючы пра адрасы, жорстка над імі пажартаваў; пляцоўка камбіната сталі над ракою дадала нешта новае ў іх узаемаадносіны — цяпер ужо яму цвёрда трэба было ведаць не толькі назву горада, куды яна паехала, але і бачыць яе ў новых абставінах, чуць яе штохвіліну, яму патрэбны былі пісьмы, вялікія, падрабязныя, каб было што чытаць, адчуваць іх на сэрцы і бясконца думаць.

— А можа, яна вам сюды напіша?

— Не. Яна думае, што я паехаў ужо. Мая брыгада затрымалася выпадкова.

— Ну што ж, можа стацца так, што вы ўжо не ўбачыцеся з Машанькай?

— Убачымся! — ужо зноў бадзёра адказаў хлопец. — Ведаеце, «Поўдзеньэлектрамантаж» і «Стальканструкцыя» — гэта фірмы, якія рэдка размінаюцца.

— Вунь што! — сказаў я, закрываючы партфель. — Калі так, то я папрашу вас перадаць Машы яе кніжку. А калі не ўбачыцеся, то... застанецца вам на ўспамін.

Хлопец ускочыў, трошкі нават заспяшаўся:

— Не, гэта так! Кнігу я перадам, будзьце ўпэўнены. Калі на тое пайшло, дык я вам скажу: калі нават «Электрамантаж» і «Стальканструкцыя» размінуцца, нам з Машаю... Цяпер ужо я ведаю... нам у жыцці... — Ён не адважваўся сказаць, але вельмі хацеў запэўніць мяне, што кніжка абавязкова трапіць да свайго адрасата, — нам ужо і хвіліны нельга аднаму без другога... Х-ха...

— Вось і цудоўна! Дужа рады, — сказаў я, падаючы яму томік Кальцова, і пасля паўзы дадаў: — Рады, што кніжка трапіць да свайго гаспадара.

— Гэта будзьце ўпэўнены!

Я паціснуў хлопцу руку і пакрочыў праз бульвар да гатэля, чамусьці, — хай уласная маладосць і мінула даўно, — блаславаўляючы жыццё.

Пераклаў М. РАКІТНЫ.



Габрыэл
## ДЖАБУШАНУРЫ

Грузія

●

Калі выйдзеце ўсе вы вясною
на зялёны
і досвітны луг,
не забудзьце,
паклічце з сабою
ў свой нястрымны,
свой радасны круг.

І ў мароз,
і ў калюжную слоту
я з сябрамі развею тугу...
Перажыць адзіноты нудоту
я ніколі без вас не змагу.

Без сяброў мне
і сонца не трэба—
я адзін бы ў маркоце зачах...
Круг сяброў —
гэта чыстае неба,
сцяганоснае неба ў вачах!

Пераклаў М. ФЕДЗЮКОВІЧ.



Зейнал
## ХАЛІЛ

Азербайджан

### ПОМНІК ГЕРОЮ

Скульптар высек яго ў граніце,
Скажа кожны — такім ён і быў,
Як арол у бяздонным блакіце,
Нашы вольныя горы любіў.

З чалавечай тугою і смуткам
На зямлю ён глядзіць з-пад рукі,
Дзе няспынна, нястрымана хутка
Сярод скалаў звіняць раўчукі.

Ядзігар тут калісьці меў хату,
Самым кемлівым быў пастушком.
Да Берліна, як трэба салдату,
Ён пракладваў дарогу штыком.

Не лічылі яго забіякам,
Спеў у сэрцы юнацкім змагар.
Там, дзе рота ішла у атаку,
Першым кідаўся ў бой Ядзігар.

Не вярнуўся, няма і не будзе...
Ля падножжа гары—п'едэстал,
Да якога спяшаюцца людзі,
На якім ён з граніту паўстаў.

Пераклала Р. БАРАВІКОВА.



Мірдза
## КЕМПЕ

Латвія

### ВАДА, ХЛЕБ, ПАВЕТРА

У Белым возеры вада
Празрыстая. Глытнеш, бывала,
І нібы выцвіла бяда,
Ад злосных спрэчак — ні сляда,
Ізноў святлей на сэрцы стала.
Мяне радзіма ратавала,
Як птушку цеплыня гнязда.

Я хлеб каштую аржаны
І доўга пахнуць кменам губы.
А ты ў спякоту сціснеш зубы,
Але не разагнеш спіны,
Мая зямля!
Мы адналюбы:
У нас з табою дух зямны.

Маё паветра, вецер—мой!
І пах зямлі лясной, марской
Яшчэ прысыплю снегам чыстым.
Сасновых лапак дух смалісты
І сена свежага настой:
Паветра мілага дзяцінства
Нашу я ў памяці сваёй!

Як у вайну тужыла я!..
Радзіма светлая мая,
П'ю волю, я ўдыхаю волю.
І помню: ты была святой
Для тых, хто паў на ратным полі;
Была і хлебам, і вадой,
Паветрам бессмяротнай долі.

Пераклала Э. АГНЯЦВЕТ.



Рамз
## БАБАДЖАН

Узбекістан

●

Навекі наш Ільіч астаўся жыць
з людзьмі,
Такога генія не разлучыць
з людзьмі.
Я на зару гляджу, здаецца мне,
што Ленін
З Крамля ідзе, каб гаварыць
з людзьмі.

Пераклаў Хв. ЖЫЧКА.



Амінджан
## ШУКУХІ

Таджыкістан

### ПАЎТАРЭННЕ

Усё, што ўжо калісь натхняла нас,
вяртаецца да нас аднойчы зноўку,
таму і паўтараецца вясна
у нашых песнях, радасных
і звонкіх.

Гавораць мне: «Прыслухайся,
паэт,—
успомніў ты вясну разоў мо
трыццаць...»
Люблю вясну! Таму і, не сакрэт,
не страшна мне ніколі паўтарыцца.

Зноў паўтаруся, бо заўжды пяю
пра хараство абуджанага краю.
Уславіў зноў каханую сваю,—
здаецца, дні былыя паўтараю.

Здаецца, зноў мы ў квецені садоў,
мне не патрэбна іншага прызвання:
я ёй гатоў аж да сівых гадоў
выказваць шчырай вернасці
прызнанне.

Няхай жа паўтараюцца заўжды
маўчанне гор і шум начнога мора,
вясёлы булькат дажджавой вады
і галасы з касмічнае прасторы.

Няхай, няхай паўторыцца вясна—
пара любві і творчага натхнення.
Адна вайна, крывавая вайна
няхай не знае болей паўтарэння!

Пераклаў М. ФЕДЗЮКОВІЧ.



Ашот
## ГРАШЫ

Арменія

### АРМЕНІЯ

Арменія, ты ўся ў напевах,
Ты і Паэт, і Муза ты.
Ты ў сэрцы, нібы ў лісці дрэва,
Румяніш словы, як плады.

Па музыцы, што з ветрам зліта,
Што зліта з голасам садоў,
Што зліта з крыкам жураўоў,
Арменія, ты Кампазітар.

Па каменю, што дом узнёс
Да самых зор—зайздроснай
долі,—
Арменія — Каменячос,
Арменія — вялікі Дойлід.

Па сіняве тваіх азёр,
Па зеляніне у праменнях,
Па ззянню скал і снежных гор
Ты, як Мастак, мая Арменія.

Хачу цябе я з года ў год
Любіць, табою ганарыцца
І верыць словам летапісца,
Што ты адвечны Садавод.

А што, каб не было цябе—
Ні рэк тваіх, ні горных стромаў!..
Не жыў бы я, адно—гібеў
Без песень, без сяброў, без дому!

Пераклаў Ю. СВІРКА



Уладзімір
## БЭЭКМАН

Эстонія

### ЗА ЛЕСАМ

Што схавана там за лесам!
А схаваныя там руды,
і грызуць іх там машыны.

Што за срэбрам вербалозу!
На вяршынях сінусоід
мігацеюць мегавольты.

Што за ельнікам зялёным!
Пыхаюць пякельным жарам
у палоне ядры ўрану.

А па кронах што за пошум!
Гэта сцішаны там скрыгат
шасцяронак у натузе.

За паўсонным борам што там!
Там прапальваецца камень
плазмай... Быццам нож у масла...

Што за лугавым прасцягам!
Там зусім адкрыты космас
і амаль астыглы прысак.

Што з мяжою поля зліта!
Патаемна гама-сонца
вострыя чаканіць цені.

А схаванаму ёсць межы!
Уся зямля, што там за лесам,
гэта й ёсць мяжа бязмежжа.

Цягне як за тыя межы!

Пераклаў Ул. БОЙКА.

# МАЛДАЎСКІЯ БУСЛЫ Ў БЕЛАРУСКІМ НЕБЕ

Нядаўна Дзяржаўны рускі драматычны тэатр імя М. Горкага паказаў спектакль па п'есе вядомага малдаўскага пісьменніка Іона Друцэ «Птушкі нашай маладосці». Аўтар быў госцем калектыву, прысутнічаў на прэм'еры.

— Спектакль па п'есе «Птушкі нашай маладосці» паказалі ўжо ў пятнаццаці тэатрах, — расказаў нашаму карэспандэнту І. Друцэ, — і я буду абсалютна сумленным, калі скажу, што ваш спектакль зрабіў на мяне амаль што самае вялікае ўражанне. Мне надта спадабаўся малады і дзёрзкі рэжысёр Юрый Міроненка, які знайшоў сваю трактоўку п'есы і прымусіў мяне, аўтара, захапіцца гэтай трактоўкай, паверыць, што менавіта так п'еса напісана.

З усіх выканаўцаў ролі Павела, якіх давялося бачыць, Павел—Юрый Ступакоў, здаецца, найцікавейшы. Сталы, удумлівы, таленавіты артыст! Прафесіянал — гэта, бадай, галоўнае. Я не раз буду вяртацца да характару, які ён стварыў.

Глыбокай і пранікнёнай здалася мне ў эпізадычнай ролі Арціны артыстка Ільза Лакштанава. Колькі чалавечага багацця адкрыла яна ў звычайнай сціплай жанчыне, адной з многіх, чые мужы не вярнуліся з вайны.

Ну і, канечне, шмат цікавага знайшла для сваёй гераіні цёткі Руцы Ганна Абуховіч. Калі гаварыць вобразна, дык яна ўжо «выруліла» на ўзлётную пляцоўку і вось-вось узляціць высока.

Я назваў толькі некалькі акцёрскіх работ зусім не таму, што астатнія мне не спадабаліся. Проста я вылучыў тыя, якія, на маю думку, лепшыя з лепшых. Мне зусім не хочацца, каб хто-небудзь застаўся пакрыўджаным, бо гэта будзе несправядліва — над спектаклем працаваў калектыў здольных і блізкіх мне па духу людзей. Кожнаму з іх я ўдзячны.

Шкада, што спяшаюся ў Маскву— там ідуць апошнія рэпетыцыі гэтай п'есы ў Малым тэатры — а то б з задавальненнем пабываў у Бабруйску, дзе таксама паставілі «Птушкі нашай маладосці» і, як мне расказвалі, старую цётку Руцу іграе зусім маладзенькая артыстка.

Пасля спектакля, у знак удзячнасці, драматург падарыў рэжысёру экземпляр сваей п'есы, на якім напісаў: «Юрыю Міроненку, маладому рэжысёру, які з вялікім бляскам запусціў у беларускае неба малдаўскіх буслоў. Доўгага і ўстойлівага палёту маладому рэжысёру і буслам. І. Друцэ».



І. Друцэ і народная артыстка БССР Г. Абуховіч. Фота А. ЛАСМІНСКАГА.

# КАСКАД ВЕСЯЛОСЦІ

Яўген РАМАНОВІЧ, заслужаны артыст БССР

**СПЕКТАКЛЬ «ЧАМУ Ж МНЕ НЕ ПЕЦЬ, ЧАМУ НЕ ГУДЗЕЦЬ» У ТЭАТРЫ ЮНАГА ГЛЕДАЧА**

Даўно гэта было. Яшчэ на пачатку станаўлення савецкага беларускага тэатра. У «Беларускай хатцы» на Камароўцы мне давялося разам з Міхасём Кудзелькам, аўтарам аднаактовай камедыі «Мікітаў лапаць», удзельнічаць у гэтым вясёлым спектаклі на сцэне Першага Беларускага таварыства драмы і камедыі. У тыя дні саліст Беларускага народнага хору Уладзіміра Тэраўскага Міхась Кудзелька выступаў і як артыст драмы ў спектаклях пад сваім прозвішчам, а ў часе белапольскай акупацыі пад псеўданімам Юрка Куртаты. Больш вядомы ў народзе як паэт Міхась Чарот, ён вымушан быў хавацца ад агентаў дэфензівы, якія ганяліся за ім, бальшавіцкім падпольшчыкам-агітатарам.

**Аўтар вясёлых камедый «Слуцкая варона», «Жаніх без шлюбу», «Сварыліся ды пажаніліся», М. Кудзелька ў «Мікітавым лапці» іграў Мікіту, хаця па сваёй творчай індывідуальнасці (амплуа) павінен быў бы выконваць Саўку. Высокі, прыгожы, з лагоднай усмешкай і вясёлымі іскрамі ў вачах, звонкім голасам, Міхась Кудзелька быў створаны для ролей маладых герояў. Аднак, вымушаны маскіравацца, ён іграў Мікіту, у камічным вобразе якога быў зусім непазнавальны. Рыжы парык з кароткай стрыжкай, гумозавы курнос, вяснушкі на твары — усё гэта мяняла яго аблічча да непазнавальнасці. Заўсёды такі зграбны ў жыцці, добра апрануты ў модны на той час гарнітур з чорнай суконнай кашуляй, падперазанай прыгожым раменьчыкам, у высокіх кавалерыйскіх ботах пад крылламі галіфэ, з пышнай шавялюрай кучаравых цёмна-каштанавых валасоў, Міхась выглядаў вельмі прыгожым маладым чалавекам. А на сцэне ў зрэбнай вопратцы з дзіркамі ды лапінамі, у вялікіх, не па назе, лапцях, Кудзелька — Мікіта смяшыў усіх сваім выглядам, грымасамі ды пацешнымі інтанацыямі. Ён быў цудоўным прастаком (амплуа), у якім ніяк нельга было пазнаць вядомага паэта, які, дарэчы, і ў жыцці валодаў выдатным пачуццём гумару. Няхітры жарт аб тым, як згублены прыдуркаватым Мікітам лапаць выклікаў у Яўмена падазрэнне, што да яго жонкі Грыпіны ходзіць у госці нейкі дзядзька, лёг у аснову камедыі аб вясёлых і смешных прыгодах добрых суседзяў.**

Вясёлы жарт «Мікітаў лапаць» і па сённяшні дзень ідзе на сцэнах самадзейных тэатраў. На прафесійнай сцэне цяпер яго паказвае разам з купалаўскімі «Прымакамі» Беларускі тэатр юнага гледача. На маю думку, спектакль пад агульнай назвай «Чаму ж мне не пець, чаму не гудзець» справядліва выклікае цікавасць да сябе гледачоў. Пастаўлены ён з добрай усмешкай, як відовішча-гульня, як твор сцэнічнага мастацтва з элементамі буфанады. Нешта ад традыцый вандроўных труп, што выступалі некалі на плошчах і вуліцах гарадоў і мястэчак, перайшло ў эстэтыку спектакля.

Акцёры іграюць з радасным захапленнем, з эмацыянальным і творчым уздымам. Яны разам з пастаноўшчыкам выступаюць аўтарамі вынаходлівых трукаў і гегаў. У тым, што выканаўцаў натхняе і аб'ядноўвае рэжысёрская задума, заслуга і поспех выхаванкі Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута Людмілы Тарасавай. Яна глыбока адчула народны гумар беларускіх камедый і змагла гэтае адчуванне жыццярадаснасці і вясёлых пацех перадаць акцёрам, навучыць іх быць непасрэднымі і жартаўлівымі на сцэне. Даўно ўжо не даводзілася бачыць у тэатры сапраўднае народнае відовішча ў такім адмысловым выкананні, з такім дакладным пачуццём жанру і камедыйным бляскам, як у спектаклі тэатра юнага гледача.

**Буржуазны тэатр выкарыстаў папулярнасць фарсу (фабліо), яго прыёмы для камерцыйных мэт. Замест вясёлых народных, часам грубаватых жартаў і сатырычных кпінаў з паноў-феадалаў, розных хціўцаў і махляроў-чыноўнікаў, выкрыцця ліхадзейства і распусты манахаў і панскіх гіцляў буржуазны тэатр скарыстаў фарс для паказу голага сексу і розных анекдатычных гісторый і тым самым вясёлую акцёрскую буфанаду і гратэск звёў да шантаннага відовішча для забавы сытых... Янка Купала ў «Прымаках» не толькі скарыстоўвае забаўную гісторыю, як падвыпіўшыя мужыкі памяняліся на ноч хатамі, каб праверыць, чыя жонка горшая, але і сатырычна востра высмяяў прадстаўнікоў царскай улады—урадніка і соцкага, людзей тупых і хцівых, гатовых заўсёды выкарыстаць сялянскую цемнату і запалоханасць на сваю карысць. Фарсавыя прыёмы шырока распаўсюджаны ў славянскіх тэатрах, асабліва балгарскім, украінскім. Яны маюць месца і ў беларускай драматургіі ў камедыях Купалы, Галубка, Чарота.**

Рэжысёр Л. Тарасава знайшла адметны ключ для сцэнічнага вырашэння старых беларускіх камедый у новым сучасным спектаклі. Яна паставіла іх як паказ вясёлых камедыянтаў.

Некалі трупа Першага Беларускага таварыства драмы і камедыі і тэатр Галубка на фурманках ездзілі з вёскі ў вёску і ставілі свае спектаклі ў любых умовах, на любых пляцоўках. Удзельнікі спектакля «Чаму ж мне не пець, чаму не гудзець» выязджаюць гурбой на сцэну на сваіх драбінах і пачынаюць спектакль пад дынамічную музыку. Удала выкарыстана рэжысёрам творчасць нашых папулярных «Песняроў», кіраўніка гэтага вакальна-музычнага ансамбля Уладзіміра Мулявіна.

У спектаклі «Чаму ж мне не пець, чаму не гудзець» створана атмасфера гульні і камізму, што робіць яго займальным і цікавым ад пачатку да канца. Вясёлы смех гледачоў напаўняе глядзельную залу і стварае той выдатны настрой святочнасці, чым і павінен вызначацца камедыйны паказ.

У дружным ансамблі акцёры іграюць лёгка і непасрэдна, спаборнічаючы адзін з адным у вынаходлівых фартэлях, камічнай пантаміме. У гэтым спектаклі не шукайце бытавой дакладнасці, хаця ён і не лунае ў эмпірэях, а абедзвюма нагамі стаіць на зямлі і мае ўсе адзнакі нацыянальнага беларускага каларыту.

Увёўшы ў спектакль двух вядучых, пэўней, слуг (артысты Яўген Грунін і Леанід Улашчанка), якія дапамагаюць арганізоўваць пляцоўку спектакля і перастаўляць дэкарацыі (ну зусім, як у тэатры Галубка ў часе яго выступленняў на вёсцы), рэжысёр-пастаноўшчык увесь час падкрэслівае і не дае забыць, што ідзе спектакль, вясёлае ігрышча. Яно, аднак, прызначана не толькі пазабавіць гледача, але і даць яму пэўнае настаўленне, як перамагаць адмоўныя з'явы яго жыцця.

Сярод выканаўцаў спектакля, яго камедыянтаў мы лёгка пазнаём ужо добра вядомых акцёраў — Барыса Барысёнка ў ролі Максіма, Алу Фурманаву—Даміцэлю, Барыса Піскуна — Трахіма, Тамару Мужэнку — Паланею ў Купалаўскіх «Прымаках» альбо Ларысу Бельскую—Грыпіну, Таццяну Курковіч—у «Мікітавым лапці» Чарота. Нельга не вылучыць тут і Віктара Турмовіча, акцёра выдатнай непасрэднасці, эмацыянальна яркага выканання і народнага гумару, які выступае ў гэтым спектаклі ў дзвюх ролях: закаханага хлопца Саўкі ў «Мікітавым лапці» і пыхлівага самадура ўрадніка ў «Прымаках». Таксама дзве ролі: Мікіты («Мікітаў лапаць») і Мацейкі («Прымакі») выконвае артыст Леанід Крук. Ён у іх паказвае свае цікавыя камедыйныя магчымасці і ўменне пераўвасабляцца ў вобразах маладых персанажаў, што не так проста.

Але асаблівую цікавасць выклікаюць акцёры Міхась Пятроў і Вера Кавалерава. Яны таксама выконваюць па дзве ролі і дзівосна пераўвасабляюцца, але, апрача гэтага, захапляюць сваім выдатным сцэнічным майстэрствам, пластыкай і ўменнем ствараць яркія камедыйныя характары. Арганічныя паводзіны на сцэне, іх высокая сцэнічнасць, свабода пачуццяў, вынаходлівасць і яркасць акцёрскіх прыёмаў — усё гэта пераконвае ў іх акцерскім умельстве і ўпэўненым самаадчуванні на сцэне. Ім верыш, нягледзячы на тое, што яны, як і некаторыя іншыя выканаўцы, губляюць часам пачуццё меры ў сваім паказе гратэску, а пачуццё меры і ёсць мастацтва, сцвярджаў А. Астроўскі.

**Не ўсе рэжысёрскія пошукі зразумелыя гледачу, як і пантамімічныя сцэны (слугі), хаця ў спектаклі зусім правамерна было б перавесці ў пантаміму рэчытатывы акцёраў, замест тэкстаў якіх яны не могуць выразна данесці да гледача праз адсутнасць належнай пастаноўкі голасу і невыразнай артыкуляцыі (У. Пятроў, В. Кавалерава і іншыя).**

**Павесіўшы цікавы графічны вясковы пейзаж — заднік, мастак Юрка**

ДЭБЮТ

# ЗНАЁМСТВА АДБЫЛОСЯ

**Л. СІНЕЛЬНІКАВА У СПЕКТАКЛІ «ЛЕБЯДЗІНАЕ ВОЗЕРА»**

Калі мы сустракаем на афішы імя новага выканаўцы ролі ў даўно знаёмым спектаклі, з'яўляецца прадчуванне нібы яшчэ адной прэм'еры. Такі настрой панаваў і ў зале Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета на прадстаўленні «Лебядзінага возера». Афіша абвяшчала: «Адэта-Адылія — лаўрэат міжнароднага конкурсу Людміла Сінельнікава (першае выкананне)».

**Яшчэ адно знаёмства года 72-га. Балетаманы, зразумела, чулі і чыталі пра таленавітую маладую артыстку. Толькі харэаграфічнае мастацтва такое, што тут «чулі» або «чыталі» яшчэ нічога не азначаюць. Артыста балета трэба бачыць на сцэне, у танцах, у пагубленасці ў вобраз, сатканы з музыкі і руху. Важны ўвесь антураж — і жэст дырыжора, і святло рампы, і натоўп кардэбалета... Ну і, вядома, зала, дзе сэрцы і вочы на якіх дзве гадзіны спектакля аддадзены сцэне.**

Цяжка, бадай, назваць салістку балета, якую б не экзаменавала гэта партыя праслаўленага твора П. І. Чайкоўскага. Яна, гэтая класічная партыя, цяжкая не толькі ў чыста тэхнічным плане, але і прад'яўляе танцоўшчыцам патрабаванні да глыбокай псіхалагічнай распрацоўкі вобразаў. Пяшчотнасці, трапяткому пачуццю, пакорлівасці Адэты супроцьстаўляецца ўладнасць, халодны разлік Адыліі.

Другая дзея. Першае з'яўленне зачараванай Злым геніем Адэты. Плаўны, грацыёзны рух. У ім адчуваецца падуладнасць лёсу, нейкая асуджанасць ва ўзмахах крылаў-рук, ва ўсёй постаці. Але вось яна ўбачыла прынца. Змяніўся, збіўся рытм руху: адчуванне небяспекі змянілася надзеяй. Замітусілася душа, часцей узмахі крылаў, шырэй стала амплітуда рухаў. Але чары трымаюць. Слабеюць рукі. Толькі кісці, выразныя кісці рук яшчэ прагнуць свабоды, але і яны неўзабаве апускаюцца, заміраюць. У адажыо — зноў надзея на свабоду, зноў натхненне, якое перадаецца прынцу і дае яму ўпэўненасць і сілу. Пакорлівасць, пяшчотнасць, надзея на вызваленне — усё, чым жыве Адэта, ужо зразумела гледачу. Знаёмства адбылося, і ён, глядач, чакае з'яўлення Адэты, і замірае зала пры кожным наступным выхадзе маладой балерыны.

А наперадзе трэцяя дзея. Наперадзе Адылія. Вядомае па-дэ-дэ, якое шмат разоў выконвалі многія вядомыя балерыны і ў спектаклях і ў канцэртным выкананні.

Дачка Злога генія варта свайго бацькі. Ганарыстая, упэўненая ў сабе і ў поспеху...

Ці здолее дваццацідвухгадовая балерына перадаць усю падступнасць і бяздушша Адыліі? Ці хопіць тэхнікі?

Змагла! І тэхнікі хапіла. Дакладныя позы. Адточаная фіксацыя кожнага руху. Ганарыста-фанабэрыстая асанка. Крыху адкінута галава.

Зігфрыд узяты ў палон.

Танец пераможцы. Максімальныя амплітуды рухаў. І халодная радасць — віртуозныя трыццаць два фуэтэ.

**Тур накідаў на сцэну незразумелых пляцовак з пабеленай фанеры, якія не стасуюцца з самадзейнай імправізацыяй. Вопраткі ўдзельнікаў занадта эстэтызаваны і не ствараюць уражання беднай дарэвалюцыйнай вёскі. Тут не патрэбны транты, але і шоўк не да вобразу. У той жа час зусім правамернае месца ў буфанадзе займаюць танцы ўсіх удзельнікаў, якія высмейваюць розныя рок-н-ролы і бугі-вугі. Іх цікава паставіла балетмайстар Элга Друло.**

**Маё захапленне спектаклем і той цудоўны настрой радасці ад светлага мастацтва, які вымусіў мяне адразу ж сесці за гэты артыкул, ніяк не павінны азначаць, што ў спектаклі няма ніякіх недахопаў і што ён такі ўжо дасканалы, што няма чаго і крытыкаваць: безумоўна, ёсць, і я часткова пра іх сказаў, а дапоўняць іншыя.**

Мяне радуе тое, што за апошні час у рэспубліцы вырасла маладая рэжысура—выхаванцы нашага інстытута, якія вабяць сваімі творчымі здабыткамі, смелымі пошукамі і адкрыццямі хоць бы толькі ў тых спектаклях, якія мне давялося паглядзець. Я не магу не сказаць пра шматабяцаючую рэжысуру Б. Луцэнкі («Раскіданае гняздо» Янкі Купалы, «Зацюканы апостал» Андрэя Макаёнка), В. Раеўскага («Трыбунал» А. Макаёнка, «Што той салдат, што гэты» Б. Брэхта) у нашым Акадэмічным тэатры. Цікавае знаёмства адбываецца з Людмілай Тарасавай у спектаклі «Чаму ж мне не пець, чаму не гудзець». Апрача пастановачнай архітэктонікі радуе ўменне глыбока раскрываць сцэнічныя вобразы, дабівацца ад акцёраў самаадданага і творчага выканання, пачуцця новага стылю ў тэатральным мастацтве. Маладыя рэжысёры вызначаюцца ў сваіх спектаклях глыбінёй ідэйнай задумы, выразнасцю мастацкіх сродкаў і высокай культурай пастаноўкі. У той жа час яны следуюць праслаўленым традыцыям «Паўлінкі» Янкі Купалы ў Акадэмічным тэатры, «Несцеркі» В. Вольскага ў тэатры імя Якуба Коласа ў пастаноўцы камедыйных відовішчаў.

**Не магу не сказаць і аб праграмцы да спектакля «Чаму ж мне не пець, чаму не гудзець». Складзеная з добрым гумарам, яна вельмі жыва і цікава знаёміць гледача з удзельнікамі спектакля, яго творцамі ад рэжысёра да манціроўшчыкаў сцэны.**

Паглядзіце «Чаму ж мне не пець, чаму не гудзець» у Беларускім тэатры юнага гледача. Не пашкадуеце!

АКЦЁРЫ І РОЛІ

# СТАЛАСЦЬ МАЛЫША

Давайце яшчэ раз прыгледзімся да сцэны Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы пад час поспеху камедыі А. Макаёнка «Зацюканы апостал». Падзівімся на хаду, прыстойнасць, выхаванасць Дачкі: як добра яна выкшталтавана ў школе і дома, акурат, як Маці—ад рэверанса да запаведзі «гэта ўсё не нашага розуму справа». А Малыш? Ці ж не ён і тое-сёе пабраў ад дзеда-гангстэра, бацькі-чыноўніка, маці-эстэткі?

Дарэчы, колькі гадоў Малышу? Не Сыну па яго філасофскіх разважаннях, а Малышу — Анатолю Мазлоўскаму ў спектаклі Б. Луцэнкі.

Аўтарскі тэкст вызначае яго ўзрост няпэўна. Калі браць пад увагу палітычныя сентэнцыі Сына, ён прымаецца як юнак. За гэта гавораць і лозунгі, спасылкі Малыша на пэўную блізкасць яго да іншых прадстаўнікоў бунтарскае моладзі, і сама тэндэнцыя разабрацца ў рэчаіснасці «глабальна». Гульня ў цацачкі тады можа быць растлумачана як аўтарская ацэнка пошукаў і бунту моладзі, ён нібы падкрэслівае, што і сам Малыш, і тыя, з кім ён водзіцца па-за сцэнай, яшчэ зялёныя і па сваіх пропаведзях і метадах пратэсту.

**Але тэкст дае волю тлумачыць вобраз Малыша і як падлетка-вундэркінда, г. зн., падлетка, які зацікавіўся палітыкай таму, што бацькі на яго не маюць часу, а ён мае час назіраць за імі, разбірацца ў іхнім сямейным, хатнім палітыканстве. І, скарыстаўшы выгаду ад дамашняе тактыкі, Сын хацеў бы мець яе потым ад палітычнае стратэгіі: паралель паміж структурай сямейных адносін і міжнароднай палітыкай выразна праводзіць Палітычны каментатар, з'яўляючыся на экране акурат тады, як прыходзяць дадому і пачынаюць сваю халодную вайну бацькі.**

**Калі разумець Малыша як вундэркінда, артысту трэба паказваць «наіўную непасрэднасць», а ў спектаклі, як гэта было адразу заўважана крытыкам Г. Коласам, «Малыш, якім яго іграе А. Мазлоўскі, пазбаўлены наіўнай непасрэднасці. Часцей за ўсё ён ставіць задачы перад дарослымі, а сам бывае азадачаны толькі «глабальнымі» пытаннямі» («Літаратура і мастацтва» ад 14 мая 1971 года).**

Ці мог бы А. Мазлоўскі іграць падлетка? Ці не прымалася б яго «наіўная непасрэднасць» як ход хітрага цыніка або як англійскі гумар Малыша?

Думаецца, што сапраўды малы, непасрэдны і шчыры Сын не змог бы прымяніць шантаж—калі б да бацькі ён здолеў паставіцца карысліва-адчужана, то адкрыць у мацеры распусную бабу і потым застацца без надлому, без драматычна-балючай зацятасці—на гэта здольны толькі сфармаваны нягоднік, хоць і недарослы. А мы прымаем Малыша спачувальна, як сфармаванага юнака, што задумаўся не на жарты пра паходжанне грубасці, цынізму, бесчалавечнасці ў дзяржаўных адносінах, і вытокі гэтае бесчалавечнасці палітыкаў шукае ў сям'і, у выхаванні, у асобе чалавека.

У асобе—а не ў пародзе чалавечай!—інакш ён ужо быў бы больш жорсткі і нахрапісты, чым можна спадзявацца ад яго па першых хадах у сямейнай стратэгіі.

Артыст іграе юнака, што жыве без асаблівых клопатаў у мяшчанскай сям'і з яе хітрыкамі, абмежаванасцю і рэкламнай аздобай. Яго Сын хутчэй гуляе ў Малыша па прывычцы, спалучаючы выгоды даўняга становішча вундэркінда і юначай «безнаіўнасці». Такое раскрыццё вобраза прыдатна і рэжысёру, бо дзіця—вундэркінд на сцэне было б маларухавым, больш летуценным ці пачынгізханаўску сузіральным. Спалучэнне падлетка-Дыягена ў бочцы, рэспектабельных бацькоў і выхаванай Дачкі дало б малюнак, а не дзею, і такая адзнака выключнасцей, ды яшчэ ў чадзе навуковага дыспуту, нагнаў бы на залу атмасферу летаргічнага сну. Разуменне пастаноўшчыкам Б. Луцэнкам Сына ў плане, прадстаўленым А. Мазлоўскім, дало магчымасць паўней скарыстаць сцэнічныя асаблівасці гэтага артыста. Яшчэ ў маскоўскай студыі «Скамарохаў» Мазлоўскі давёў да кшталту пластыку рухаў, позы, міміку і жэст. У гэтым спектаклі, з купалаўцамі, энергія і спрыт маладога акцёра акурат вельмі ўдала выяўлялі месца і ролю Малыша ў сям'і, ажыўлялі мізансцэны, вялі дзеянне, рабілі Сына не проста адметным, але проціпастаўленым у ідэйных адносінах да астатніх персанажаў. Тым больш, што ўсе яны —«не сцэнічныя характары ў звычайным разуменні, а хутчэй персаніфікаваныя пазіцыі, ідэі, думкі» (Г. Колас).

**Творчая манера акцёра А. Мазлоўскага выявілася менавіта ў гэтым спектаклі. У руху і рэпліках ён больш выразны, чым у роздуме, у адно імгненне ўзлятае ён на антрэсолі ці, перамахнуўшы сцэну, знікае пад лесвіцай. Нават у самай заядлай спрэчцы манеўруе ён у інтэр'еры на хуткасці бегу з перашкодамі, захоўваючы на твары адпаведны выраз ці, наадварот, ствараючы цэлую пантаміму. Калі ўлічыць, што выступае ён тут без грыму, выразнасць акцёра і разнастайнасць яго арсеналу робіць вельмі выгоднае ўражанне на залу. Дыкцыя і багатыя інтанацыі дапаўняюць творчы выгляд А. Мазлоўскага ў спектаклі, сведчаць плён працы і несумненнай здольнасці артыста, які за кароткі час авалодаў беларускім літаратурным вымаўленнем і ўжо ў гэтым спектаклі можа быць прыкладам для партнёраў у адносінах беражлівага стаўлення да культуры сцэнічнай мовы.**

Роля Сына прынесла А. Мазлоўскаму вядомасць і сімпатыі гледачоў. Адразу ж пасля прэм'еры цытаваны вышэй крытык у захапленні заключыў: «...Гамлета сучаснага ён сыграў». Даўно, відаць, не меў малады акцёр такога высокага тытулу, да таго ж, гэтак аператыўна —і заслужана —дадзенага. Але тая ацэнка, пацверджаная ў адносінах да артыста, патрабуе перагляду ў адносінах да вобраза, ім створанага.

Уяўленне пра Гамлета вымагае асцярогі, калі гэтае імя перадаецца сённяшняму герою. Сталы поспех спектакля па п'есе А. Макаёнка дае магчымасць яшчэ раз зірнуць на яго героя, каб вызначыць яго месца параўнальна з нашымі ўмовамі, бо як далёка за марамі ні ляжала б радзіма Малыша, прымаем яго мы ў тэатры адпаведна з нашымі поглядамі, і найбольш важныя нашы асацыяцыі.

**Для нас Малыш не з'яўляецца апосталам нейкага новага вучэння, а яго назіранні толькі абуджаюць, а не нараджаюць у нас непрымірымыя адносіны да звярынай сутнасці імперыялізму. Важнейшым і неаслабным здаецца другі бок «адкрыццяў» Сына — маральны, антымяшчанскі. А мяшчанства, як вядома, любіць нават пакрытыкаваць свае ўласныя недахопы, каб абяззброіць яго крытыкаў. Аднак варта ўзяцца за «ўстоі» яго побыту, як таты бяруцца за папругу.**

**Малыш у спектаклі не апостал, ён — ілюстрацыя «апостальскага вучэння», ці, прасцей кажучы, выказнік думкі, што з абывацельскага асяроддзя ёсць два выйсці: першае—прэч ад маралі мешчаніна—праз вакно; другое—прыняць мараль мешчаніна—і засесці пасля лозунгаў за стол.**

Калі б А. Мазлоўскі, згодна з рэжысёрам, хацеў паказаць Гамлета,—Сын не вярнуўся б абедаць з Татам, Маці, Дзядулем, а потым—праз гады—не ўзяўся б апавя-



даць пра здарэнні свае маладосці, пачапіўшы акуляры і пінжак. Сын мог бы стаць апосталам, але яго зацюкалі, аглушылі дэмагогіяй «напаўкультурнага» мешчаніна з вышэйшай адукацыяй, затруцілі тэрміналогіяй, зазубранай са схаванага бацькамі слоўніка, запалохалі папругамі,—і ён сеў за стол, нават не зважаючы на Дачку, што гатова за яго на касцёр (а, наслухалася апостала, пройдзе, як і ў мяне—напісана ў Малыша на твары за ядой). Малыш з вышыні паднябесся апынуўся за сталом, корміцца тою ж пустатой, што і тыя, каго ён крытыкаваў, і хто, нарэшце, пасадзіў яго на чале стала. Скончыўся модны бунт...

А зала маўчыць. Або горача апладзіруе акцёру А. Мазлоўскаму. Ёй крыўдна за Сына, бо тыя, хто ў зале, ведаюць большую, вышэйшую мараль: «Эх, Малыш... Чаго ты вярнуўся да таго ж карыта, што і гэтыя нікчэмныя абывацелі... А нецярпімасць... непрымірымасць да несправядлівасці... несумленнасці, кар'ерызму, хцівасці?—як шкада, што начытаўшыся пудовых талмудаў, не змог ты пазнаёміцца з Маральным кодэксам нашай моладзі...»

Другі сезон ідзе ў купалаўцаў «Зацюканы апостал». Ці ўзнёслы творчым натхненнем, ці стомлены працай над новымі ролямі, кожны раз выходзіць на сцэну артыст Анатоль Мазлоўскі, каб прадэманстраваць сваё майстэрства пераўвасабляцца і жыць клопатамі героя. Будуць у яго новыя п'есы і вобразы, поспехі і проста дзяжурствы, але застанецца памяць пра першую ўдачу і добрае слова ўдзячных гледачоў.

Уладзімір ІСКРЫК.



Скончылася трэцяя дзея. Знаёмства з новай балерынай пераходзіць у прызнанне яе таленту і майстэрства. Адчуваеш, што прысутнічаеш пры поспеху—заслужаным і яркім.

**Трэцюю дзею паказала Людміла Сінельнікава два гады назад у апошнім туры Міжнароднага конкурсу балета ў Варне аўтарытэтнаму журы і не меней аўтарытэтнай публіцы гэтага буйнейшага конкурсу танца. Аматарам балета Варна адкрыла імя дваццацігадовай балерыны з Варонежа, уручыла ёй бронзавую ўзнагароду. А пажаданне надалей нязменнага старшыні журы Г. С. Уланавай маладой балерыне пры ўручэнні ўзнагароды запомнілася Людміле Сінельнікавай на ўсё жыццё.**

Строгі крытык мог бы заўважыць некаторую скутасць балерыны ў асобных сцэнах другой дзеі. Магчыма, яму захацелася б убачыць яшчэ больш бляску, віртуознасці ў трэцяй дзеі. Ён мог бы зрабіць заўвагі па руху рук пры выкананні фуэтэ. Але гэтыя дробязныя «агрэхі» — ад дэбютнага хвалявання пры сустрэчы з новым гледачом і новай сцэнай, да якой балерына павінна прывыкнуць, ад новых калег, а то і проста ад маладосці. Але бясспрэчна адно — у балетную трупу прыйшла маладая, таленавітая балерына. І гледачы цяпер запомняць гэтае імя і будуць чакаць ад Людмілы Сінельнікавай новых поспехаў. Яны не за гарамі.

Па праву падзяляюць поспех балерыны ў гэтым спектаклі педагог-рэпецітар Н. Стукалкіна і дырыжор Таццяна Каламійцава.

Л. КАРАІЧАЎ.

## У ПЕРШЫМ СЕЗОНЕ

Данецкі тэатр юнага гледача на пачатку сваёй дзейнасці паказаў гераічную драму беларускага драматурга Алеся Махнача «Гаўрошы Брэсцкай крэпасці». Спектакль цёпла сустрэлі гледачы горада Макееўка, дзе сёлета адкрылася заслона гэтага тэатра. Афіша першага сезона запрашае піянераў і школьнікаў на спектакль пра гераізм абаронцаў сацыялістычнай Бацькаўшчыны і ў дні, калі народ святкуе 50-годдзе ўтварэння СССР.

# ХАРОШАЕ І РОЗНАЕ...

Ірына НАЗІМАВА

1972 год. Год слаўнага юбілею Саюза ССР. Ён адзначаны і хвалюючымі падзеямі ў савецкім выяўленчым мастацтве.

Адбыліся шматлікія выстаўкі. Яны дазваляюць прасачыць змястоўныя праявы новага ў выяўленчым мастацтве кожнай з братніх рэспублік. Выключна багаты матэрыял для параўнання далі, напрыклад, такія буйныя экспазіцыі, як занальныя выстаўкі ў Маскве ў Манежы, дзе сінявокая Беларусь паказвала свае дасягненні ў жывапісе, графіцы, скульптуры разам з сонечнай Малдовай. У кастрычніку ў сталіцы Літвы была разгорнута экспазіцыя жывапісу ўсіх братніх рэспублік «Дружба» — якраз незадоўга да самастойнай вялікай выстаўкі беларускага жывапісу і графікі ў Вільнюскім палацы выставак. Зусім нядаўна ў Маскве ўрачыста адкрылася ўсесаюзная мастацкая выстаўка «СССР— наша Радзіма», дзе выяўленчае мастацтва нашай рэспублікі трымае яшчэ адзін экзамен побач з мастацтвам усіх рэспублік-сясцёр.

Падсумоўваючы ўражанні ад гэтых яркіх і разнастайных выставак, я прыгадваю яшчэ і сёлетні фестываль выяўленчага мастацтва братніх рэспублік краіны, які адбыўся ў Арменіі ў маі. І хоць там Беларусь была прадстаўлена невялікай колькасцю работ, аднак і па іх можна было меркаваць аб месцы беларускага мастацтва ў агульнасаюзным, аб яго тэматычных і стылявых асаблівасцях. І вельмі прыемна было бачыць, як армянскія гледачы цёпла прымалі серыі афортаў А. Кашкурэвіча «Партызаны» і лінагравюр Л. Асецкага «Падполле Мінска», карціны М. Савіцкага «Камсамольцы» і В. Грамыкі «Салдаты».

Кожнаму атраду савецкага шматнацыянальнага мастацтва ўласціва шырыня ахопу з'яў рэчаіснасці. Пра гэта сведчаць, напрыклад, такія творы сёлетніх выставак, як святочна-звонкагалосае палатно М. Сар'яна «Арменія» або чыстыя, як спеў дойны, палотны малдаванкі В. Русу-Чабану пра сённяшняе жыццё Малдавіі, карціны беларуса М. Савіцкага «Ля ваколіцы» і малдаваніна М. Грэку «Праводзіны». У той жа час ледзь не кожная экспазіцыя ўвачавідкі пераконвала: кожнае з мастацтваў братніх рэспублік мае сваю спецыфіку, адрозніваецца асаблівым эмацыянальным ладам. Вось, скажам, тыя ж «Праводзіны» М. Грэку — адмысловы гумар, перапляс гучных колерных акцэнтаў, дынамічная кампазіцыя, быццам напоўненая ажыўленымі галасамі, гукамі вясковага аркестра. І — «Ля ваколіцы» М. Савіцкага. Тэма — тая ж. А палатно маўклівае, стрыманае. Эмоцыі не выплёскваюцца, а кандэнсуюцца ў самай глыбіні чалавечай. Нездарма, відаць, адчулі мы на занальнай выстаўцы ў Маскве, дзе мажорнае ў сваёй аснове мастацтва Малдавіі з яе святочна-прыгожым гучаннем колераў суседнічала з драматычна-напружанымі творамі беларускіх жывапісцаў, істотныя асаблівасці нацыянальнага ладу мыслення, за якім угадваецца лад нацыянальнага характару ў цэлым...

Вяртаючыся да ўражанняў ад ерэванскай выстаўкі, падкрэслю: тут можна было прасачыць істотныя тэндэнцыі развіцця ўсяго савецкага выяўленчага мастацтва на працягу апошніх трох дзесяцігоддзяў, бачыць і тое, што вызначае мастацтва розных рэспублік, і тое, што іх збліжае.

Мы пабачылі і хроніку ваенных гадоў, і бытавы жанр, якому так шмат увагі аддавалася ў пасляваенны час,—жанр, пазначаны схільнасцю мастакоў да ілюстрацыйна-апавядальнага рашэння. У шэрагу работ відавочна адлюстраваліся напружаныя пошукі мастакоў з рысамі так званага «суровага стылю», як рэакцыі на бесканфліктнасць многіх твораў пяцідзесятых гадоў. Мы яшчэ раз пераканаліся, што «суровы стыль» апяваў мужнасць і самаадданасць савецкага чалавека. Нездарма, як і некалі пры сваім першым з'яўленні на выстаўцы, па-ранейшаму хвалюе «Новае мора» азербайджанца Т. Салахава — палатно, блізкае па творчых пошуках да пошукаў пагодкаў мастака, вядомых сёння далёка за межамі сваіх рэспублік, па ўсёй нашай краіне і за яе межамі Т. Нарыманбекава, М. Андронава, П. Ніканава, М. Савіцкага і іншых.

Агульнае ў мастацтве братніх рэспублік — пачуццё супрыналежнасці да лёсу роднага народа і патрэба крануцца жыватворных крыніц яго мудрасці. Зразумела, у кожнай нацыянальнай культуры свае традыцыі, але падыход да традыцый у кожнай з іх у нашай краіне падпарадкаваны задачам сучаснасці. Асабліва відавочна гэта ў свежых, новых рашэннях заўсёды актуальнай гісторыка-рэвалюцыйнай тэматыкі. Узяць хоць бы такія набыткі савецкага мастацтва, як серыя ксілаграфій Д. Бісці «Ленін», ксілаграфію М. Кузьмінскіса «Усіх паноў і тыранаў», твор І. Зарыньша «Легенда». Зразумела, прыкладаў можна прыводзіць значна больш.

А як хораша служыць сённяшняму нашаму мастацтву зварот мастакоў да багацейшых крыніц фальклору, у якіх поўна раскрываецца душа народа, вобразны лад яго мыслення, яго нацыянальная своеасаблівасць. Шукаючы пластычныя эквіваленты паэтычным і песенным нацыянальным рытмам, мастакі імкнуцца захаваць неўвядальную прыгажосць першакрыніцы... І ці не бліскучы гэтаму прыклад — удалая выяўленчая інтэрпрэтацыя беларускіх народных песень у такіх сучасных па духу аўталітаграфіях А. Паслядовіч, як «Ой рана на Івана» і «У садзе зязюля кукуе».

Калі мастак не проста цытуе ўжо створаныя ўзоры, а сэрцам спасцігае народную мудрасць, узнікае тая самая сувязь пакаленняў, пры якой традыцыі актыўна прыходзяць на дапамогу мастацкім ідэям сучаснасці. Савецкія мастакі імкнуцца ў народным мастацтве знайсці апору пры вырашэнні надзённых этычных пытанняў. Натуральны вынік гэтага — актыўнае засваенне прафесійным мастацтвам фальклорнага элементу. І жывапісцы, і графікі актыўна скарыстоўваюць у сваіх работах матывы народнага лубка, разьбы па дрэве, пляцення карункаў, ткацтва, аплікацыі. Як тут не прыгадаць ілюстрацыі Ю. Васняцова, Т. Маўрынай, карціны Т. Яблонскай апошніх гадоў, а таксама такіх нашых беларускіх мастакоў, якія набываюць сталасць, як А. Лось або В. Сумараў.

Шмат пра што ёсць падумаць з нагоды сёлетніх выставак. Але самае галоўнае, у чым яны пераконваюць,— тое, што нашаму мастацтву не ўласцівыя дробнатэм'е, вузкі бытавізм. Савецкае мастацтва, мастацтва сацыялістычнага рэалізму — гэта мастацтва сапраўды філасофскага роздуму, багатае на асацыятыўныя сувязі, якія значна ўзбагачаюць і паглыбляюць змест работ. І вось што яшчэ вельмі важна: у братнім саюзе народаў нашай краіны жыватворныя традыцыі і сённяшнія здзяйсненні мастацтва кожнага братняга народа служаць усім народам-братам. Ці ж не ўзбагачаецца гэтым наша мастацтва?!

Літаграфіі літоўца С. Красаўскаса... Кожны, бадай, пагодзіцца, што такая творчасць нясе ўсе прыкметы сённяшняй эпохі. І толькі сляпы можа сцвярджаць, што такая творчасць не звязана з нацыянальнымі традыцыямі. У тым і справа, што яна звязана і з нацыянальным, і з інтэрнацыянальным!

Або вазьміце работу Э. Амашукелі «Рэвалюцыя», якая яшчэ раз сцвярджае важкасць рэалістычнай сімволікі. У гэтай скульптуры зліліся арганічна засвоеныя мастаком традыцыі нацыянальнага грузінскага мастацтва і вопыту ўсяго савецкага мастацтва. Масіўная фігура чалавека, які крочыць, яго важкія мускулы, некалькі дэфармаваныя прапорцыі, знарочыста шырокі крок — усё падпарадкавана пластычнай ідэі паказаць неадольнасць Кастрычніка.

У сваю чаргу філасофскае паглыбленне ў тэму, жаданне выклікаць сваім творам шмат важных для разумення яго ідэйнай сутнасці асацыяцый, нарэшце, імкненне як мага больш поўна і ўсебакова ахапіць тэму прыводзіць многіх мастакоў да адметных кампазіцыйных прыёмаў. Так, напрыклад, у ілюстрацыях Д. Лалуа да вершаў Г. Табідзе ў цэнтры — Ленін у тыя ці іншыя моманты рэвалюцыйнай дзейнасці, а абрамленне ўдакладняе грамадска-палітычную абстаноўку тагачасных падзей (імперыялістычная вайна, падпольная друкарня «Искры» і г. д.). Своеасаблівы кампазіцыйны мантаж прымяняе і Л. Асецкі ў цыкле лінагравюр «Падполле Мінска». Вобразнае рашэнне тут пабудавана на супастаўленні ў межах аднаго ліста дзвюх паралельных сюжэтных ліній.

Прыгадваючы мастацкія выстаўкі сёлетняга года, можна з упэўненасцю сказаць: мастацтва савецкае — адзінае па светапогляду, адзінае па творчаму метаду і на дзіва разнастайнае па індывідуальных почырках і стылявых прыёмах. І ў гэтае багацце мастакі Савецкай Беларусі ўносяць усё больш важкі ўклад.

Дружба мастацтваў нашай краіны — яшчэ адно пераканальнае сведчанне жыватворнасці дружбы нашых савецкіх народаў.

У МАЙСТЭРНЯХ МАСТАКОЎ



Ю. НІКІФАРАЎ. Апартэід.

# ГУЛ НАПРУЖАНЫХ ФАРБАЎ

У Магілёве прыцягваюць ўвагу грамадскасці выстаўкі жывапісу і графікі. Мяне, як і шматлікіх наведвальнікаў, вабяць работы маладога бабруйскага мастака Юрыя Нікіфарава. Сярод іх — карціна «Баян. Уступайце ў стрэмя залатое» і ілюстрацыі да драмы Шэкспіра «Кароль Лір». Работы гэтыя (усяго сем лістоў), хоць і сведчылі аб бясспрэчнай таленавітасці аўтара, не маглі ўсё ж даць патрэбнага ўяўлення аб творчасці мастака. Мне пашчасціла быць госцем Юрыя Нікіфарава ў Бабруйску і пазнаёміцца з усім тым, што напісаў ён за апошнія чатыры гады. Сваімі ўражаннямі падзялюся з чытачамі.

Перш за ўсё прадстаўлю самога мастака. Нарадзіўся Юрый у 1937 годзе на Браншчыне. Вучыўся ў Ялецкім мастацкім вучылішчы. Працаваў нейкі час настаўнікам малявання. Потым скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Скончыў датэрмінова, абараніўшы дыплом серыяй тэатральных плакатаў. Апошнія гады працуе выкладчыкам у Бабруйскім мастацкім прафесійна-тэхнічным вучылішчы.

Пачынаю аглядаць работы Юрыя Нікіфарава ў яго на кватэры — і ўсё глыбей уваходжу ў свет мастака. Свет гэты вялікі, неабдымны. Не куточак Бабруйска, а ўся планета з космасам, з далёкім мінулым і сучасным, з праекцыяй у будучыню. Свет барацьбы, страсцей чалавечых, вялікіх трывог, роздуму і надзей. І ўсё гэта ў тым найвялікшым напружанні, якое даведзена да крайняй мяжы, да гулкага звону. Змагаюцца дабро і зло, святло і цемра. У мастака свой погляд, сваё адчуванне, свая адметная манера. Строгія лініі, строгія фарбы. Яго работы (усё графіка) ні ў чым не падобныя на чыесьці іншыя. Па любой з іх пазнаеш толькі Юрыя Нікіфарава. Ну хоць бы гэты ўзвіхраны дынамічны рух у кампазіцыі, які ў чымсьці нагадвае рух унутры ядра атама.

Што вылучыць на пярэдні план, чаму аддаць перавагу? Гэтага, відаць, зрабіць немагчыма. Бо ўсё ў свеце мастака (звыш ста работ) знаходзіцца ва ўзаемнай сувязі. Адно дапаўняе, падкрэслівае другое. Свет суцэльны. Можна хіба толькі гаварыць аб нейкіх прапорцыях, суадносінах. Аб тым, што прадстаўлена ў большай альбо меншай меры. Але зноў жа: свет свой мастак яшчэ стварае, ён у творчым развіцці.

Можна было б пачаць агляд, скажам, з графічнага ліста «Абуджэнне». Чалавек становіцца чалавекам, у яго руках першыя прылады працы. Зару чалавецтва мастак падае ў адпаведных чырвоных, трывожна-радасных фарбах. У барвовым водсвеце твары людзей, іхнія рукі.

Але перад гэтым лістом кранула пачуцці і ўсхвалявала работа «Тыл». Хочацца зноў вярнуцца да яе, глядзець і глядзець, перажываць перажытае табой самім і тваім народам у час вайны. Нядаўняе поле бою, усыпанае асколкамі металу і патроннымі гільзамі. Вайна адкацілася далей на захад. Зямлю трэба ўзараць і засеяць. Ды няма ў людзей ні вала, ні каня. І яны самі запрэгліся ў плуг: мужчына (можа дачасна дэмабілізаваны з-за цяжкога ранення) і дзве жанчыны. Скураныя лямкі ўрэзаліся ў голыя плечы хлебароба, рука яго ў вялікай натузе кранаецца зямлі. Напяты, нацягнуты мускулы так, нібы чалавек валачэ не плуг — усю планету з яе вайной і бядой. І ніколькі яму не лягчэй, чым тым, хто на фронце. А жанчыны ў сваёй змушанай запрэжцы? Шчымлівая скруха на твары, нялёгкія думы. Карціна нікога не пакіне раўнадушным, ні таго, хто сам усё гэта перажыў, ні таго, хто ведае аб мінулым па школьных уроках гісторыі. У кожнага будзе свой роздум.

А вось — «Хірасіма». Гэта не столькі рэквіем ахвярам першага атамнага нападу на чалавецтва, колькі крык перасцярогі: «Людзі, будзьце пільнымі!» Ва ўласцівай яму манеры Юрый Нікіфараў намаляваў жудасную трагедыю. Чорнае сонца. Вакол яго кружацца, як птахі, што згубілі зямлю, людзі, што стварылі цывілізацыю, маці, якая ў роспачы хоча выцягнутай далонню засланіць дзіця. У кампазіцыі ёсць дэталь: вытыркаецца ствол з мушкай. З гэтага і пачалося! І не скончыцца, пакуль не будуць забаронены чалавецтвам усе сродкі вайны. Пакуль перад намі стаіць сучасны Молах. На графічным лісце мы бачым пачварную істоту, якая ўвасабляе антычалавечую разбойніцкую сілу сучаснага імперыялізму. Перад пачварай— гара чарапоў, за спіною — нацэленыя ракеты, калышыцца атамны грыб.

А яшчэ бачым: прыгожая засмучаная жанчына з ліраю ў руках за калючым дротам. Гэта — Элада. Са змрочных турэмных муроў людзі са сціснутымі кулакамі цягнуцца да святла, якое скупа цэдзіцца сюды. Надпіс: «О, Іспанія, пакутлівая маці». Набатным звонам гучыць графічны ліст «Апартэід», прысвечаны ахвярам расізму. Афрыканец, прывязаны рукамі да ўсечанага дрэва, на зямлі у трагічнай позе чарнаскурая жанчына з парванымі блакітнымі маністамі.

Цярністым шляхам праз нясцерпныя пакуты ідзе чалавецтва да святла, да перамогі дабра над злом. Мысліцель трымае на далоні сонца, трымае над усім светам, над чорнымі постацямі інквізітараў. Ікар з апаленымі крыламі адчувае сябе ўсё ж пераможцам: ён лятаў! І ў яго маладым прыгожым абліччы, у напружанні мускулаў і думкі мы пазнаём нейкія рысы нашых слаўных касманаўтаў. Сальеры атручвае Моцарта, ды застаецца

# ГОМЕЛЬСКІЯ ДОЙЛІДЫ — СВЯТУ

Днямі ў Гомельскім філіяле «Белдзяржпраекта» адкрылася вялікая выстаўка. Экспанаваны работы дойлідаў Гомеля. Арганізатар выстаўкі — Гомельскае аддзяленне Саюза архітэктараў БССР.

Знаёмячыся з экспазіцыяй, як бы заглядаеш у заўтрашні дзень гарадоў, сёл, вёсак Гомельшчыны. Тут можна пабачыць больш 30 праектаў забудовы жылых раёнаў і мікрараёнаў, асобных магістраляй, асобных будынкаў.

Вельмі цікава пазнаёміцца, напрыклад, з такімі праектамі: жылы раён «Волатава» ў Гомелі (аўтары — архітэктары Л. Стукачоў, А. Падабедаў, С. Крывашэеў), — тут будзе жыць больш за сто тысяч жыхароў: праект планіроўкі пасёлка Крынічны ў Мазырскім раёне, створаны архітэктарам В. Галеўка; праект забудовы мікрараёна № 5 у Гомелі, створаны архітэктарам В. Заграбельным.

Цікава, як будзе выглядаць новы мікрараён № 3 у Светлагорску. Пра гэта можна даведацца на выстаўцы, пазнаёміўшыся з праектам архітэктара Л. Стукачова. А вось праект дома сувязі для Гомеля. Яго аўтар — архітэктар Г. Тахаў.

Пра кожны з праектаў, якія паказаны на выстаўцы, можна гаварыць многа. І гледачы гавораць, спрачаюцца.

Прыцягваюць увагу наведвальнікаў выстаўкі фотаздымкі ансамбляў і інтэр'ераў Гомеля.

Цікавы раздзел на выстаўцы і «неархітэктурнай» творчасці архітэктараў. Тут можна пазнаёміцца больш чым з дзвюмастамі акварэлей, жывапісных работ, графічных лістоў. Ёсць нават чаканка. Шмат работ прадставілі архітэктары В. Бурмакін, К. Усцюгоў, В. Калюжны, В. Комар, В. Хайрулін. Цікавая чаканка архітэктараў Я. Казлова і С. Паўлава.

**М. НАЙШУЛЕР,**
**інжынер Гомельскага філіяла «Белдзяржпраекта».**

# «БЕЛАРУСКІ» НУМАР ЧАСОПІСА «АРХИТЕКТУРА СССР»

**...1920 год. Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі РСФСР прымае рашэнне аб прадастаўленні Беларусі грашовага авансу для аднаўлення народнай гаспадаркі і накіроўвае ў рэспубліку неабходныя матэрыялы і абсталяванне...**

**...1940 год. У Беларусі пабудавана 12 тысяч школ, 4 тысячы клубаў, 78 санаторыяў і дамоў адпачынку; працуюць 20 тэатраў...**

**...1972 год. Рэспубліка асвайвае 16 мільярдаў рублёў капітальных укладанняў. Будзе пабудавана 500 тысяч кватэр...**

**Гэтыя лічбы і факты ўзяты з артыкула сакратара ЦК КПБ А. Смірнова «У сям'і непарушнай», якім адкрываецца адзінаццаты, «беларускі» нумар часопіса «Архитектура СССР».**

**Паставіўшы перад сабой задачу расказаць аб поспехах, з якімі архітэктары рэспублікі сустракаюць 50-годдзе СССР, рэдакцыя сканцэнтравала ўвагу не столькі на фактах гісторыі, колькі на канкрэтных праблемах, якія рашаюцца цяпер у праектных майстэрнях. Побач з тэарэтычнымі, праблемнымі артыкуламі, якія напісалі для гэтага нумара старшыня Дзяржбуда БССР У. Кароль, старшыня праўлення Саюза архітэктараў БССР Ю. Шпіт, галоўны архітэктар інстытута «Белдзяржпраект» В. Ладыгіна, член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР, старэйшы архітэктар рэспублікі А. Воінаў, чытач знойдзе ў нумары і нарысы аб вядучых дойлідах рэспублікі, і матэрыялы аб архітэктуры жылых раёнаў і мікрараёнаў, аб аднаўленні і развіцці Мінска, аб справах раённых архітэктараў.**

**Нумар багата ілюстраваны — у ім звыш 70 здымкаў, прысвечаных нашай рэспубліцы.**

**Беларускі выпуск «Архитектура СССР» атрымаўся цікавым і змястоўным. Мы маем, па сутнасці, справу з калектыўным нарысам аб шляхах станаўлення і развіцця беларускай савецкай архітэктуры.**



Ю. НІКІФАРАЎ. Баян. Уступайце ў стрэмя залатое.

ў вяках не ён, носьбіт зла, а геній, Моцарт... Кожная работа глыбока распрацавана, мае акрэсленую думку.

Шляхі гісторыі, скрыжаванні гэтых шляхоў. Барацьба нашай Радзімы за сваю незалежнасць моцна гучыць у вобразах дружыннікаў князя Ігара, у натхнёным абліччы славутага Баяна і асабліва ў рабоце «Трывожная граніца».

І вось ужо тое, што побач з намі, — нашы будні, клопаты, радасць і засмучэнні. Манументальныя, дынамічныя постаці хакеістаў. Будаўнікі Бярозаўскай гідрастанцыі. Дачка ля хворай маці. Стары бухгалтар. Падмятальшчыца. А колькі пранікнёнага лірызму, трапяткога адчування вясны ў карціне «Рэха»! Постаць дзяўчыны чымсьці нагадвае тую бярозку, што ў белым паўяванні лунае на фоне абуджанага лесу. Такое ўспрыманне, быццам адбылося дзіўнае зліццё жывапісу, музыкі і балету.

Закончан агляд, і захацелася, каб Юрый Ніціфараў адказаў на некаторыя пытанні. Каго ён лічыць сваімі настаўнікамі, хто з мастакоў бліжэй яму за ўсё?..

Вялікі італьянскі мастак эпохі Адраджэння Мікеланджэла. З сучасных — мексіканец Давід Сікейрас і італьянец Рэната Гутуза.

Мастак расказаў, што ўсе буйнейшыя работы, выкананыя ў апошні час, былі задуманы даўно. Паказаў работы, якія ён лічыць яшчэ незавершанымі. Пазнаёміў са сваёй бібліятэкай, у якой сабраны кнігі па сусветнай гісторыі, па мастацтву, па многіх галінах ведаў і, вядома, мастацкая літаратура.

Работы Юрыя Нікіфарава, бясспрэчна, заслугоўваюць таго, каб іх выстаўлялі на шырокі паказ.

**Аляксей ПЫСІН.**
Магілёў.





# БЕЛАРУСКІ «КАЗБЕК»

Сярод шматлікіх фотапартрэтаў, якія экспануюцца ў Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, ёсць фотаздымак узбека Мамадалі Тапывалдыева. Многія ветэраны партызанскай барацьбы больш звычайнага затрымліваюцца каля яе, і я сама чула, як адзін з іх сказаў: «Добры дзень, Казбек!..»

Казбек... Пад гэтым імем ведалі партызанскага разведчыка Мамадалі Тапывалдыева на Магілёўшчыне.

Вайна застала яго ў Беларусі. Ён служыў у артылерыйскім палку вадзіцелем аўтамашыны. Першыя баі. Акружэнне. Уначы ляснымі сцежкамі разам з сябрам Іванам Рыльковым прабіраўся ён на ўсход. Стомленыя, рашылі спыніцца ў роднай вёсцы Івана — Пасыраве, што на Магілёўшчыне. Узрадавалася прыходу сына Ганна Васільеўна Рылькова. Як роднага прыняла і яго таварыша. «Толік, сынок», — ласкава называла яна Мамадалі. Мамай называў ён Ганну Васільеўну...

Час ішоў. Іван і Мамадалі набіраліся сіл. Кожны дзень абмяркоўвалі, як ісці далей на ўсход. А ў Пасырава ўсё часцей прыходзілі весткі пра партызан. Мамадалі ўстанавіў з імі сувязь. У канцы красавіка 1942 года групай з сямі такіх жа, як ён, акружэнцаў выйшлі яны ў Рацэўскі лес і аб'ядналіся з атрадам Герасіма Аляксеевіча Кірпіча. Мамадалі стаў разведчыкам.

Вось першыя запісы, што захаваліся ў партызанскіх справаздачах:

«29.7.42 г. У разведцы наскочыў на групу гітлераўцаў колькасцю 6 чалавек... Прыняў бой і са свайго кулямёта ўсіх знішчыў».

27.8.42 г. У вёсцы Дуброўскае Талачынскага раёна пры выкананні задання натрапіў на групу варожых салдат, якія прыехалі на аўтамашыне. Уступіў з імі ў бой, знішчыў 2 і столькі ж параніў».

«У верасні—кастрычніку 1942 г. з групай дыверсантаў узарваў 4 варожыя эшалоны. Былі разбіты 4 паравозы і 22 вагоны, сярод іх 5 вагонаў з жывой сілай і тэхнікай».

«25.10.42 г. на чыгунцы Масква—Мінск забіў афіцэра і салдата, захапіў трафеі».

Такіх запісаў можна прывесці шмат. У няспынных баях рос і мацнеў партызанскі атрад. Ужо ў маі 1942 года ён быў рэарганізаваны ў партызанскую брыгаду «Чэкіст» (камандзір Г. Кірпіч), якая дыслацыравалася ў трохкутніку Магілёў—Орша—Талачын. Мамадалі Тапывалдыеў узначаліў аддзяленне разведкі ў атрадзе № 5, дзе камандзірам быў мардвін Аляксандр Фёдаравіч Сімдзянкін. Партызаны любілі смелага і вясёлага ўзбекскага хлопца. Асабліва сябраваў ён з рускім Віктарам Багамолавым, украінцам Мікалаем Апанасенкам, казахам Мусулем Мажытавым, чувашам Іванам Данілавым, мардвінам Мікалаем Каянавым.

Мамадалі быў лепшым разведчыкам, хадзіў на падрыў варожых эшалонаў, мужна трымаў сябе ў атацы. Ён мог адрамантаваць вінтоўку, аўтамат, кулямёт. У ліпені 1942 года яго прынялі ў рады Камуністычнай партыі.

Увосень 1942 года група партызан брыгады «Чэкіст» пайшла на «Вялікую зямлю». У гэтай групе быў і Мамадалі Тапывалдыеў. Пры Беларускім штабе партызанскага руху ён скончыў школу па мінна-падрыўной справе. Вярнуўся ў атрад ужо вясною 1943 года.

Летам таго ж года камандаванне брыгады вырашыла разграміць буйны варожы апорны пункт у вёсцы Прыгань Круглянскага раёна. Гарнізон размяшчаўся ў будынку школы, вакол якой у радыусе 5—6 метраў гітлераўцы выкапалі роў шырынёю і глыбінёю ў два метры. На дне рва былі звязкі з калючага дроту. Калючым дротам абнесена была ўся вёска.

Перад аперацыяй добра папрацавалі разведчыкі, сярод якіх быў і Мамадалі. Яны паведамілі камандаванню брыгады аб тым, што ў Шклоў са Смаленска на дапамогу гарнізонам Прыгані і Круглага прыбыў атрад карнікаў. І ў штабе брыгады нарадзіўся смелы, дзёрзкі план. Было вырашана пераапрануць чалавек сто партызан-добраахвотнікаў у нямецкае абмундзіраванне і пад выглядам атрада карнікаў прабрацца ў гарнізон. Дзве ж іншыя групы партызан намечана было пасадзіць у засады і перагарадзіць шлях ворагу з боку Талачына і Шклова.

У шэсць гадзін раніцы калона «карнікаў» рушыла ў бок Прыгані. Там ужо ведалі, што прыйдзе дапамога, рыхтаваліся сустрэць яе. Вартавы адкрыў вароты і прапусціў атрад. Партызаны Крымцоў і Карпушэнка, якія ішлі наперадзе калоны, прывіталі на нямецкай мове каменданта гарнізона і папрасілі размясціць атрад на адпачынак.

За некалькі хвілін партызаны занялі ўсе агнявыя кропкі і па ўмоўнаму сігналу кінуліся ў казарму. Пачаўся бой. На дапамогу падаспела зводная група партызан, якая хавалася на ўзлеску на ўсход ад вёскі. За гадзіну партызаны знішчылі каля сямідзесяці гітлераўцаў, захапілі вялікія трафеі.

Шмат хітрасці і кемлівасці выявілі партызаны ў барацьбе з акупантамі. Цікава была праведзена аперацыя ў маі 1944 года па знішчэнню варожага гарнізона ў райцэнтры Круглае. Гэты вялікі і добра ўмацаваны гарнізон узяць прыступам было немагчыма. Камандаванне вырашыла выманіць ворага.

Каля Круглага на лузе пасвіўся статак кароў, адабраных фашыстамі ў насельніцтва. Апоўдні Мамадалі Тапывалдыеў і яшчэ адзін партызан Рабінін, пераапранутыя ў жаночую вопратку, з вёдрамі накіраваліся да статку. Пагналі яго ў напрамку лесу, дзе зрабілі засаду два атрады партызан. У гарнізоне заўважылі, што статак знік. Невялікі атрад гітлераўцаў кінуўся да лесу. Партызаны іх абстралялі. Адразу ж з Круглага на чатырох машынах выехала падмацаванне. Гітлераўцы адкрылі артылерыйскі агонь. Але ім адказалі тры партызанскія гарматы. Больш дзвюх гадзін ішоў бой. Потым партызаны адышлі. Гітлераўцы страцілі каля шасцідзесяці чалавек. А варожы гарнізон ноч калаціўся ад страху.

Аб гэтых і многіх іншых баявых аперацыях, аб сваіх баявых сябрах часта ўспамінаў Мамадалі Тапывалдыеў у далёкім Узбекістане, дзе пасля вайны ўзначаліў адзін з калгасаў. Побач з баявымі ўзнагародамі — Залатой Зоркай Героя Савецкага Саюза, ордэнам Чырвонай Звязды і медалем «За адвагу» на яго грудзях з'явіўся ордэн «Знак Пашаны» і значок дэпутата Вярхоўнага Савета Узбекскай ССР.

Самым вялікім святам для Мамадалі Тапывалдыева была сустрэча з баявымі сябрамі на беларускай зямлі. Дарагім госцем быў ён у вёсцы Пасырава ў доме Ганны Васільеўны Рыльковай. «За маму! За родную Беларусь!» — абвяшчаў тосты Мамадалі Тапывалдыеў.

**Р. ЧАРНАГЛАЗАВА,**
загадчык аддзела гісторыі партызанскага руху Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

# ПРЫНЯТЫ Ў САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ



**АНДРАЮК Серафім Антонавіч.** Крытык і літаратуразнаўца. Нарадзіўся ў 1933 годзе. У 1957 годзе закончыў аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна, затым аспірантуру Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР. Кандыдат філалагічных навук. Працуе старшым навуковым супрацоўнікам у гэтым жа інстытуце. Літаратурную працу пачаў у 1964 годзе. Адзін з аўтараў 3-томнай манаграфіі «Праблемы развіцця беларускай савецкай прозы» і іншых зборнікаў. Рэгулярна выступае ў друку па актуальных пытаннях развіцця літаратуры.



**ГНІЛАМЕДАЎ Уладзімір Васільевіч.** Крытык і літаратуразнаўца. Нарадзіўся ў 1937 годзе. Член КПСС. У 1954 годзе закончыў Брэсцкі педагагічны інстытут імя А. С. Пушкіна, а ў 1965 — аспірантуру Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР. Кандыдат філалагічных навук. Літаратурную працу пачаў у 1962 годзе. Аўтар кнігі «Традыцыі і наватарства» (1972), а таксама шэрагу брашур па пытаннях развіцця беларускай літаратуры. Рэгулярна выступае ў друку з рэцэнзіямі і артыкуламі.



**КУХАРАЎ Сцяпан Іванавіч.** Празаік. Нарадзіўся ў 1919 годзе. У 1950 годзе закончыў педагагічны інстытут імя А. М. Горкага. Літаратурную працу пачаў у 1955 годзе. Працуе ў рэдакцыі часопіса «Маладосць». Аўтар зборнікаў нарысаў «Незабыўныя сустрэчы» (1959), «Людзі крылатага ўзлёту» (1961), «Ад вашага карэспандэнта» (1966), «Жыццё — легенда» (1971). Выступіў у друку з аповесцю «Бацькавічы».



**ЛАЗАРУК Міхась Арсеньевіч.** Крытык і літаратуразнаўца. Нарадзіўся ў 1926 годзе. Член КПСС. У 1951 годзе закончыў Мінскі педагагічны інстытут імя А. М. Горкага, а ў 1954 — аспірантуру ў ім. Доктар філалагічных навук, прафесар. Працаваў дэканам філалагічнага факультэта, цяпер прарэктар інстытута па вучэбнай рабоце. Літаратурную працу пачаў у 1950 годзе. Аўтар даследаванняў «Пімен Панчанка» (1959), «Тэорыя літаратуры» (1971) і іншых. Рэгулярна выступае ў друку па актуальных пытаннях развіцця беларускай савецкай літаратуры.



**НІКІФАРОВІЧ Ванкарэм Валяр'янавіч.** Перакладчык і крытык. Нарадзіўся ў 1934 годзе. У 1957 годзе закончыў філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна. Працуе старшым рэдактарам літаратурна - драматычных перадач на тэлебачанні. Выступае ў друку з 1959 года. У яго перакладзе на беларускую мову выйшлі кнігі «Закаханыя птушкі» К. Калчава (1964), «Габраўскія ўсмешкі» (1966) і іншыя. Піша таксама рэцэнзіі і літаратурна-крытычныя артыкулы.



**САВІЦКІ Уладзімір Іларыёнавіч.** Празаік і паэт. Нарадзіўся ў 1914 годзе. Член КПСС. У 1937 годзе закончыў тэкстыльны інстытут імя С. М. Кірава ў Ленінградзе. Доўгі час працаваў у ваенным друку. Цяпер жыве ў горадзе Барысаве. Літаратурную працу пачаў у 1942 годзе. У выдавецтве Міністэрства абароны СССР выйшлі на рускай мове кнігі прозы «Людзі пярэдняга краю» (1956 і 1958), «Ішлі салдаты» (1961), «Ноч перад парадам» (1970), зборнік вершаў «Поле бою» (1963). Выступаў у друку з іншымі творамі.

### ВЫПРАЎЛЕННЕ ПАМЫЛКІ

**У нумары штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» ад 22 снежня гэтага года па віне рэдакцыі была дапушчана памылка ў артыкуле «Саюз свабодных і роўных».**

**Шосты зверху абзац трэба чытаць: «Трывалы фундамент дружбы і Саюза народаў быў закладзены першымі дэкрэтамі Савецкай улады — «Дэкрэтам аб міры», «Дэкрэтам аб зямлі», «Дэкларацыяй правоў народаў Расіі», у якой гаварылася ..» і далей, як у тэксце.**

**Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы глыбока смуткуе з прычыны напаткаўшага вялікага гора — заўчаснай смерці старэйшага работніка тэатра Кубельскай Валянціны Іосіфаўны і выказвае спачуванне сваякам і блізкім нябожчыцы.**

# ПА ТОЙ І ПА ГЭТЫ

**Гродзенская студыя тэлебачання—адна з самых маладых у рэспубліцы. Ёй—каля чатырох гадоў. Але нават за гэты кароткі прамежак часу яна стала важным прапагандысцкім цэнтрам, масавым сродкам камуністычнага выхавання працоўных. Перадачы, нарысы, рэпартажы, замалёўкі, у якіх тэлежурналісты востра, па-дзелавому ставяць праблемы далейшага ўздыму эканомікі, развіцця культуры, павышэння актыўнасці грамадска-палітычнага жыцця, садзейнічаюць мабілізацыі працаўнікоў горада і вёскі на выкананне гістарычных рашэнняў XXIV з'езда КПСС.**

**Некаторыя пытанні работы Гродзенскай студыі тэлебачання разглядаюцца ў гэтай карэспандэнцыі.**



**Старшы рэдактар маладзёжнай рэдакцыі Павел Шаўчук (ён сядзіць) і аператар Барыс Мешчаракоў праглядаюць адзняты кінаматэрыял.**

## АДРАС НЕ ПАТРЭБЕН?

Звычайна, каб трапіць на студыю тэлебачання, няма неабходнасці пытацца, дзе яна. Студыя сама сябе «выдае» вежай. Непаўторны рэльеф старажытнага горада нібы «хавае» яе ад чужога вока... Толькі на блізкай адлегласці можна ўбачыць, нарэшце, стромкі шпіль. Ля яго падножжа размешчана студыя. Звонку яна здаецца невялічкім будынкам. Але пра гэта забываеш, калі заходзіш у сярэдзіну. Тут вялізны павільён, вялікая апаратная, прасторныя кабінеты.

## СЛОВА «ПРАДАСТАЎЛЯЕЦЦА ДЫКТАРУ»

Кожны дзень на блакітным экране ўзнікае панарама Гродна. Усім дарагі і блізкі малюнак... «Добры вечар, таварышы! Гродзенская студыя тэлебачання пачынае свае перадачы», — так кожны вечар звяртаецца да соцень і тысяч людзей дыктар Яўген Налётаў.

Пачынаецца знаёмства з навінамі, цікавымі падзеямі, якія толькі што адбыліся на гэтай старажытнай зямлі.

Аб чым (самым галоўным) за гады існавання студыі паведаміў дыктар? Вось некаторыя звесткі:

...на Гродзенскім хімкамбінаце імя С. О. Прытыцкага закончылася будаўніцтва комплексу па вытворчасці капралактаму (1970);

...на гастролі ў Польскую Народную Рэспубліку выехаў ансамбль «Лідчанка»;

...мост, які злучыў левую і правую часткі горада, здадзены ў эксплуатацыю (1971);

...новая экспазіцыя адкрыта ў музеі імя А. Міцкевіча ў Навагрудку;

...пачалося будаўніцтва прадзільна-ніткачнага камбіната (1972);

...калгасы і саўгасы вобласці выканалі план адгрузкі бульбы для Масквы, Варонежа, Кірава... (1972).

А было і такое. Аднойчы чарговая перадача была спынена і людзі ўбачылі на экране партрэт пажылога чалавека. «Таварышы, — звяртаўся да гледачоў дыктар з-за кадра, — калі хто заўважыць гэтага мужчыну, просім затрымаць яго. Вельмі просім...»

З дапамогай тэлевізара мужчыну затрымалі. Як высветлілася потым, ён зрабіў цяжкае злачынства...

Ці трэба казаць, што перш чым перадача стане здабыткам «аўдыторыі», вядзецца напружаная, карпатлівая падрыхтоўка, што на аднаго дыктара працуе вялікі калектыў творчага і тэхнічнага персаналу.

Вось тут і атрымліваюцца два бакі тэлебачання. Той бок — гэта ўвесь творча-падрыхтоўчы працэс, як кажуць, «кухня». Ну, а гэты бок — тое, што бачым мы на экране...

Вось цяпер і звернемся да некаторых перадач і даведаемся, аб чым яны расказалі.

## У КАДРЫ — ПРАПАГАНДЫСТ

Як паказаць чалавека на экране? Вядома, так, каб добра можна было разглядзець яго, бліжэй пазнаёміцца з тым, што ён робіць, чым прыцягнуў увагу журналістаў.

Вось чаму ў адрозненне ад кіно, аб'екты здымаюцца галоўным чынам буйным ці сярэднім планам. Спецыфіка ёсць спецыфіка. Але буйны план — гэта не толькі тэхніка-творчае пытанне. Гэта яшчэ і змест падзеі, яе грамадска-палітычнае значэнне.

...Каля дваццаці гадоў працуе дырэктарам васьмігадовай школы ў вёсцы Вострава на Зельвеншчыне І. П. Булыка. У мінулым — партыйны работнік, сам папрасіў накіраваць яго ў адстаючы калгас «Чырвоны партызан». Тут Іван Піліпавіч узначаліў агіткалектыў, які пад яго кіраўніцтвам стаў надзейнай апорай партыйнай арганізацыі і праўлення калгаса ў вырашэнні надзённых праблем.

Аўтары расказваюць аб тым, як палымянае прапагандысцкае слова стала мабілізуючым, крок за крокам дапамагала кіраўніцтву гаспадаркі вывесці яе ў перадавыя.

Якімі сродкамі дасягаюць журналісты сваёй мэты? Ды самымі разнастайнымі. Выкарыстоўваюць фотаздымкі, запісваюць на стужку галасы агітатараў, водгукі аб іх рабоце старшыні калгаса, радавых членаў сельгасарцелі. Аднак, вядома, у цэнтры ўвагі застаецца расказ самога важака прапагандыстаў.

Праўда, нельга сказаць, што ўсё ў перадачы атрымалася гладка. Па-першае, трэба было зрабіць яе карацей. Па-другое, месцамі яна занадта насычана тэкстам. Часам гэтыя і іншыя пралікі робяць ураджанне фрагментарнасці, распыленасці, «уводзяць» гледача ад галоўнай тэмы.

І ўсё ж нават пры наяўнасці істотных недахопаў, перадача «У кадры — прапагандыст» прагучала добра і прынесла нямала карысці вясковым агітатарам.

## «АТАКУЕ» «ПРЭС-КЛУБ»

Абласное тэлебачанне — гэта перш за ўсё баявая, наступальная публіцыстыка. Гродзенскія журналісты добра памятаюць аб гэтым. І, разам з тым, шукаюць новыя формы «падачы» матэрыялу, імкнуцца шырока выкарыстоўваць пэўныя выяўленчыя сродкі.

Так, па ініцыятыве Якава Карабка адкрыўся тэлевізійны клуб. Тут рэгулярна адбываюцца цікавыя і вельмі патрэбныя сустрэчы, якія прысвечаны розным галінам гаспадарчага і культурнага жыцця. Часам, у вострай, не зусім прыемнай для некаторых кіраўнікоў форме, вядзецца гаворка аб недахопах, аб неабходнасці хутчэй пераадолець іх.

Той жа Якаў Карабок разам з рэжысёрам Альгісам Дзяргінчусам сабралі і скампанавалі злабадзённы, хвалюючы матэрыял аб ахове прыроды, прывялі факты грубых парушэнняў.

Перадачы «Прэс-клуба» разглядаюцца ў партыйных, савецкіх і гаспадарчых органах. Захады да парушальнікаў прымаюцца самыя рашучыя. Нічога не скажаш, дзейсную форму знайшлі тэлежурналісты.

## ГРОДНА—«ГОСЦЬ» МІНСКА

Калі даюць «зялёны» на Мінск — важная падзея ў жыцці ўсяго калектыву студыі. Адна з перадач, якую глядзелі мінчане,

# ПЕДАГОГ, ХОРМАЙСТАР

*ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!*



З далёкага таёжнага сяла шаснаццацігадовы юнак Коля Маслаў упершыню трапіў у вялікі горад на Іртышы Омск у 1929 г. Цудаў хлапчына нагледзеўся нямала. Упершыню ўбачыў ён тут чыгунку, паравоз. У посвісце іх гудкоў душа юнака ўгадвала новую яву жыцця. Школьны настаўнік параіў яму паступаць вучыцца ў музычны тэхнікум. І вось камісія — строгая, непрыступная. Прапанавалі Колю сыграць на раялі. Юнак, які славіўся на ўсю ваколіцу ўмельствам іграць на балалайцы, гармоніку, гітары, сумеўся. Упершыню ён бачыў гэты дзівосны інструмент...

Колю Маслава прынялі. Пачаліся гады настойлівай вучобы. Тут ён сустрэўся і пасябраваў з маладым задорным выкладчыкам тэорыі музыкі Рыгорам Пукстам. А пасля — вучоба ў славутай Маскоўскай кансерваторыі, якую скончыў па класу прафесара Паўла Рыгоравіча Часнакова. Вучылі будучага дырыжора-харавіка вядомыя ў краіне спецыялісты гэтай справы — прафесары А. Аляксандраў, М. Данілін, А. Нікольскі, Г. Дзмітрыеўскі...

У 1940 годзе Мікалай Маслаў прыязджае ў Мінск выкладчыкам дырыжорска-харавой кафедры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Пасля вайна... Зноў вяртаецца ў Беларусь у 1945 годзе. З таго часу рыхтуе нацыянальныя кадры дырыжораў-харавікоў.

Вучні дацэнта Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі заслужанага дзеяча мастацтваў БССР працуюць у розных гарадах рэспублікі і за яе межамі. Сярод іх музычны кіраўнік Дзяржаўнага народнага хору БССР заслужаны дзеяч мастацтваў БССР К. Паплаўскі, мастацкі кіраўнік народнага ансамбля песні і танца «Нёман» заслужаны дзеяч культуры БССР А. Чопчыц, хормайстар ансамбля песні і танца Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі, заслужаны артыст БССР Я. Яравой, дацэнт Кішынёўскага інстытута мастацтваў Л. Аксёнава, загадчык музычна-педагагічнай кафедры Мінскага педінстытута імя М. Горкага Г. Барзноўская і многія іншыя.

У жыцці Мікалая Фёдаравіча Маслава ёсць адно вялікае захапленне — гэта мастацкая самадзейнасць. Ён яе вялікі сябра, дарадца і настаўнік.

# БОК БЛАКІТНАГА ЭКРАНА

была прысвечана 130-годдзю з дня нараджэння Элаізы Ажэшка.

Аўтары з вялікай любоўю і цеплынёй паказваюць мясціны, дзе нарадзілася пісьменніца, дзе яна расла, гартавалася, пазнавала і апісвала «мужыцкае жыццё».

«Калі б не яго молат і разец, мой лёс быў бы іншым. Відаць, я не стала б пісьменніцай, — гучаць з экрана словы Э. Ажэшка. — Рана ці позна і, магчыма, вельмі хутка паднявольная праца людзей стане свабоднай і будзе больш справядліва раздзелена паміж імі».

Гэтыя радкі чытаюцца на фоне кадраў: араты за плугам, і трактарам, дзяўчына за калаўроткам і дзяўчына за сучасным ткацкім станком... Тое, што прадказвала Э. Ажэшка, здзейснілася. Дзеці і ўнукі герояў яе кніг жывуць радасна і шчасліва.

## ЗАПРАШАЕ «ЛЕСНІЧОЎКА»

Значнае месца ў праграме студыі займаюць перадачы «Гродзеншчына літаратурная», або, як іх любоўна называюць — «Леснічоўкі».

Вось якую рэмарку прапаноўвае аўтар Ю. Голуб да першай «леснічоўкі»: чытанне вершаў павінна ісці так, каб у кадры знаходзіліся атрыбуты ляснога доміка (лава, акно, стол і г. д), каб адчуваўся каларыт леснічоўкі. Грамадзянскія і лірычныя матывы вершаў павінны акцэнтаваць той момант, што леснічоўка не закінуты куток, а непасрэдны ўдзельнік, лірычны герой перадачы.

У перадачах гэтага цыкла ідзе, як правіла, шчырая, задушэўная размова пра тое, што зроблена мясцовымі літаратарамі, пра іх творчыя планы, задумы...

Але заўсёды аддаецца належнае старэйшым пісьменнікам, тым, чыё жыццё гартавалася ў час ваеннага ліхалецця. Перадача «Стыль, да болю знаёмы» была прысвечана Валянціну Таўлаю (аўтар Ю. Голуб, рэжысёр В. Куц, аператары А. Анціпін і Ул. Ткачэнка).

...Нейкі час Валянцін Таўлай жыў і працаваў у Лідзе. Тут ім быў напісаны, у прыватнасці, твор «Аб маіх вершах».

Часта наладжвае студыя сустрэчы літаратараў з тэлегледачамі. Не ўсе яны, праўда, выходзяць у эфір на тым узроўні, на якім хацелася б іх бачыць. Бывае, што замест разбору, аналітычнага даследавання творчасці таго ці іншага пісьменніка, прапаноўваюцца ілюстрацыйныя, павярхоўныя эпізоды з іх жыцця. Думаецца, гродзенцы прыкладуць намаганні, каб перадачы на літаратурныя тэмы былі якаснымі, цікавымі, змястоўнымі.

## ШУКАЛЬНІКІ

Галоўнае ў рабоце журналіста — пошук. А для журналіста тэлебачання ён мае асаблівае значэнне. Бо толькі цікавая перадача можа прывабіць увагу гледача. Дасягнуць гэтага можна спалучэннем знаходлівасці з высокім прафесійным майстэрствам. Гродзенскія аўтары заўжды імкнуцца (хоць удаецца гэта не ўсім аднолькава), каб не было «дзяжурных» перадач, каб яны закраналі важную грамадзянскую тэму і пакідалі глыбокі адбітак у сэрцах.

... Хто не чуў на Гродзеншчыне пра Вольгу Соламаву! Камсамольскі важак, падпольшчыца, партызанка... Загінула ў няроўным паядынку з фашысцкімі карнікамі. Здаецца, усім вядома пра гэта.

Але вось Павел Шаўчук адшукаў у архівах паэму, прысвечаную подзвігу камсамолкі. Напісаў яе дваццаць шэсць гадоў назад Павел Шахан. Гледачы даведаліся аб гэтым дзякуючы тэлеперадачы.

Хвалюючы матэрыял знайшоў Павел Шаўчук, былы камсамольскі работнік, выкладчык інстытута, а зараз старшы рэдактар студыі тэлебачання.

...Адкрылася яшчэ адна старонка гісторыі, жыццё і дзейнасць Багуслава Вільчкоўскага. Ён адзін з многіх, хто будаваў жыццё новай вёскі ў былой Заходняй Беларусі. Пачаў працаваць у калгасе конюхам. Пасля яго прызначылі брыгадзірам паляводчай брыгады, а праз некаторы час абралі старшынёй сельгасарцелі, дэпутатам Вярхоўнага Савета нашай рэспублікі. 27 лістапада 1964 года бандыцкі стрэл абарваў жыццё патрыёта. Званне Героя Сацыялістычнай Працы яму было прысвоена пасмяротна... Калгас, які ён ствараў і ўзначальваў, носіць цяпер яго імя.

Аб незвычайным лёсе гэтага чалавека і расказала тэлевізійная перадача. Аўтары скарысталі фотаздымкі, кадры кінахронікі, успаміны.

Шмат добрага можна сказаць і аб тым, як паспяхова працуюць для тэлеэкрана журналісты Г. Пархамчук, І. Граблеўскі, М. Каралёў, А. Касенка, К. Балацевіч, А. Кіркевіч, В. Блізнец, В. Бараноўскі і інш. У кожнага свой творчы почырк, розны ўзровень журналісцкага майстэрства. Адно агульнае аб'ядноўвае іх: яны расказваюць у сваіх перадачах і нарысах не толькі пра сёняшнія справы працаўнікоў горада і вёскі, але і ўслаўляюць подзвіг тых, хто змагаўся за свабоду і шчасце сваіх нашчадкаў, славяць палітую крывёю зямлю Гродзеншчыны.

...Людміле Січко — дачцы Навагрудчыны — было дзевятнаццаць, калі варожая куля спыніла яе палымянае сэрца. Землякі паставілі ёй помнік. А ў тэленарысе «Навагрудак» (рэжысёр Альгіс Дзяргінчус) яна — галоўная гераіня. Памяць аб «партызанскай ластаўцы», — так любоўна называлі дзяўчыну баявыя сябры па зброі, — жыве ў сэрцах людзей.

Шляхам мантажных стыковак, выкарыстання паэтычных метафар і сімволікі, параўнання мінулага і сучаснага, рэжысёр і аператар ствараюць незабыўныя вобразы воінаў і партызан, каларытныя малюнкі з жыцця Навагрудчыны і яе гераічнай гісторыі.

Праўда, не абышлося і без пралікаў. Думаецца, нарыс значна выйграў бы, каб аўтары засярodзілі ўвагу гледача на адной тэме, а не імкнуліся ахапіць вялікі прамежак часу, вялікую колькасць людзей. Бо ў агульных планах губляюцца людзі, індывідуальнасці.

У гэтым сэнсе, процілегласцю папярэдняму твору, можна лічыць другі тэленарыс «Праз балоты і багны» (рэжысёр У. Грэкаў), прысвечаны меліяратарам. У тэксце, здымках, планах — ва ўсім адчуваецца аўтарская ўсхваляванасць, шчырасць, цеплыня адносін да чалавека — пераўтваральніка пустэч у квітнеючыя палеткі.

У адрозненне ад першага твора тут аўтары прапануюць акрэсленую, лакальную тэму, вядуць гаворку аб дзейнасці адной брыгады, аднаго невялікага калектыву людзей.



Дыктар студыі тэлебачання Яўген Налётаў. Фота Б. МЕШЧАРАКОВА.

Аднак і першай і другой стужкам уласцівы істотныя агульныя недахопы. І там, і тут зашмат кадраў, з невыразна пабудаванай кампазіцыяй. Мала або адсутнічаюць зусім буйныя і сярэднія планы. Відаць, аўтары не заўсёды ўлічваюць і не заўжды трапна выкарыстоўваюць спецыфіку і магчымасці тэлевізійнай камеры. А, шчыра кажучы, часам ім не хапае і прафесійнага майстэрства...

Рамяство, вядома, удасканальваецца. Скажам, перадачы і тэленарысы, якія ствараюцца цяпер, не маюць нічога агульнага з тым, што рабілася тут два ці нават год назад... І ўсё ж павышэнне якасці аператарскага, рэжысёрскага, сцэнарнага, рэдактарскага рамяства застаецца праблемай нумар адзін для ўсяго творчага калектыву студыі.

## ЧЫМ ЗАКЛАПОЧАНЫ СТАРШЫНЯ?

Я. А. Місарэвіч — старшыня камітэта па тэлебачанню і радыёвяшчанню Гродзенскага аблвыканкома — пералічвае адразу некалькі праблем: транспарт, творчыя кадры, другая праграма. І ён мае рацыю. Яўген Аляксандравіч моцна зайздросціць «тэлевізійнікам» рэспубліканскай студыі. У іх кажа ён, і «Волгі», і «газікі»... Ні адлегласць, ні час — нішто не абмяжоўвае іх.

Няпростае пытанне і з творчымі кадрамі. Людзі працуюць дружна, старанна, але прафесійнай падрыхтоўкі не маюць. Іх вучоба не арганізавана.

— Мы, тэлевізійнікі-практыкі, — гаворыць Павел Шаўчук.— Пісаць нас ніхто не вучыў...

Сапраўды, многае робіцца на энтузіязме. Той жа Альгіс Дзіргінчус — ініцыятар стварэння маладзёжнай студыі. Хто ведае, магчыма, пройдзе некаторы час і выйдуць з гэтай майстэрні дыктары, артысты, рэжысёры.

І яшчэ адна заўвага. Пакуль Гродзенскаму тэлебачанню адводзіцца гадзіна ў суткі. Усяго толькі адна гадзіна!.. Мала. Бо хочацца, ой, як хочацца мясцовым аўтарам зрабіць штосьці значнае, «капітальнае» — тэлефільм, тэлеспектакль.

У рэдакцыях, павільёнах, апаратных, на здымачных пляцоўках, у гарадах і вёсках — усюды ідзе напружаная праца нястомных летапісцаў Гродзеншчыны. І раз у суткі (хоць і ўсяго гадзіну), як заўсёды, звяртаецца да «аўдыторыі» дыктар: «Таварышы, Гродзенская студыя тэлебачання пачынае свае перадачы...»

**Алесь МАЦКЕВІЧ.**

---

**Вялікі энтузіяст харавога спявання, нястомны прапагандыст лепшых песенных скарбаў — народных, твораў савецкіх кампазітараў і класікі — такім ведаем мы Мікалая Маслава.**

Працуючы ў кансерваторыі, ён адначасова кіраваў многімі харавымі калектывамі. Больш дваццаці год ён займаўся з хорам музычнай школы-дзесяцігодкі пры Беларускай кансерваторыі, у якім удзельнічала звыш 200 юных спевакоў.

Мікалай Маслаў кіраваў хорам політэхнічнага інстытута, жаночым хорам Акруговага дома афіцэраў, 12 год працаваў з хорам працоўных рэзерваў, арганізоўваў масавыя святы песні на стадыёне «Дынама» ў Мінску, на возеры Нарач. Словам, праз усё яго жыццё, поўнае творчага неспакою і гарэння праходзіць песня.

Мікалаю Фёдаравічу Маславу споўнілася 60 год. Пажадаем яму вялікага плёну на высакароднай ніве падрыхтоўкі кадраў дырыжораў-харавікоў. Збываецца яго і другая запаветная мара — расце харавая культура народа. Масавыя святы песні становяцца добрай традыцыяй у раёнах і абласцях рэспублікі. Поспехі ў развіцці мастацкай самадзейнасці — відавочныя. Дзеля гэтага варта жыць і працаваць.

**Д. КУДЗЕЛЬКА.**

---

Уолтэр МЭЙ:

## «Я ЎЛЮБЁНЫ Ў ЛІРУ БЕЛАРУСІ»

НА ТЫТУЛЬНЫМ лісце тоўстай папкі з рукапісамі надпіс па-англійску: «Анталогія беларускай лірыкі». Кніга яшчэ ў чарнавым варыянце, яна, як гаворыцца, яшчэ «на варштаце паэта», — на рабочым стале яе складальніка. Але ў дзяржаўным выдавецтве «Прагрэс» (Масква), якое выпускае творы рускай класічнай і савецкай мастацкай літаратуры на многіх замежных мовах, такое выданне ўжо стаіць у плане рэдакцыйнай падрыхтоўкі на 1973 год і намечана да выпуску ў пачатку 1974 года. Яе там ужо чакаюць рэдактары і стылісты, а ў Савецкім Саюзе і па-за яго межамі — у краінах англійскай мовы — чытачы-аматары паэтычнага слова.

І такая кніга будзе, вялікая, аб'ёмістая анталогія памерам у 10—12 друкаваных аркушаў, «зялёны мацярык паэзіі», як сказана ў адным з уключаных у яе вершаў. Закладам таго, што добрая задума ініцыятараў такога выдання здзейсніцца, служыць нястомная праца і невычарпальная энергія складальніка і перакладчыка паэтычных твораў для анталогіі — таленавітага англійскага паэта Уолтэра Мэя.

У адным са сваіх вершаў, прысвечаных нашай рэспубліцы, У. Мэй прачула прызнаваўся: «Я ўлюбёны ў ліру Беларусі». І сапраўды, ён даўні і шчыры друг нашай краіны, нашай рэспублікі, беларускага паэтычнага слова. Ён па праву з'яўляецца і адным з першых папулярызатараў і прапагандыстаў нашай паэзіі на Брытанскіх астравах. Уолтэр Мэй нарадзіўся 22 снежня 1912 года паблізу г. Брайтана ў Англіі. Сын рабочага-механіка, ён і сам з малых год пачынаў свой працоўны шлях рабочым-падмайстрам. Працаваў і вучыўся, уласным заработкам аплачваў не дзяшовы ў капіталістычным свеце «плён навукі». Скончыўшы мастацкае вучылішча, ён некаторы час працаваў чарцёжнікам і дэкаратарам па рэкламе. Каб атрымаць вышэйшую адукацыю, вымушаны быў адправіцца ў Індыю — па таму часу калонію Брытанскай імперыі — і скончыць там педагагічны каледж. А вярнуўшыся на радзіму, доўгія гады настаўнічаў у пачатковай школе і актыўна супрацоўнічаў у прагрэсіўным друку і ў мясцовых аддзяленнях Таварыства дружбы графства Сусэкс (Паўднёвая Англія). І, вядома ж, сам пісаў вершы.

Знаёмства з рускай, а праз рускую — і з беларускай паэзіяй — пачалося для яго яшчэ ў пяцідзесятыя гады, калі ён працаваў сакратаром мясцовага аддзялення міжнароднай Лігі дружбы і быў актывістам мясцовага аддзялення Таварыства дружбы і культурнай сувязі з СССР.

Свае вершы У. Мэй пачаў друкаваць у 1932 годзе, пераклады з рускай паэзіі і паэзіі народаў СССР — з 1945 года. Першыя свае пераклады з беларускай паэзіі апублікаваў у прагрэсіўных перыядычных выданнях у 1967 г.



Я. Семяжон і У. Мэй.

На працягу некалькіх апошніх год У. Мэй жыве і працуе ў нашай краіне, з'яўляючыся стыльрэдактарам газеты «Москоў Н'юс». Нашаму шчыраму другу і папулярызатару беларускай паэзіі споўнілася 60 год. Усе беларускія літаратары сардэчна віншуюць яго са слаўным юбілеем.

**Я. СЕМЯЖОН.**




Мал. Ю. ГРЫГОР'ЕВА.

Уладзіслаў БОЙКА
Украіна

## ЖМЕНЬКА КАЛЮЧАК

### ЧАС І ПАРНАС

**Казаў зняважліва Раман:**
**— Што мне Шэкспір!**
**Што мне Ралан!**
**Калі б я меў жаданне, час,**
**Даўно б забраўся на Парнас!**
**Якое шчасце для Парнаса,**
**Што ў Рамана мала часу!**

### ТРАГІЧНАЯ СПОВЕДЗЬ

**Як я на дзіва ўсім падрос,**
**Спаткаць мне музу выпаў лёс.**
**Мы і цяпер бы сябравалі з ёй,**
**Калі б не жонка з рэўнасцю**
**сваёй.**

### ПАТЭНЦЫЯЛЬНЫ ГЕНІЙ

**ПераканаНы быў у тым,**
**Што дрэмлюць таленты у ім.**
**Але сплываюць дні за днямі—**
**І дрэмлюць таленты гадамі.**

Пераклаў Г. ТУМАС.

Я. Іваноў

## НАВАГОДНІ ГОСЦЬ

У ЦЕМНАВАТУЮ пярэднюю з суседняга пакоя даносіліся шумлівая гамонка, вясёлы рогат, звон посуду, чарак... Там урачыста праводзілі стары год. А я — не праводзіў... Я стаяў і, адчуваючы пякучы голад і зайздрасць, цярпліва чакаў, калі выйдзе да мяне Пятро Кузьміч, мой новы загадчык. .

Нарэшце, шкляныя дзверы шырока расчыніліся, з іх вывалілася знаёмая прысадзістая постаць.

— Дык гэта зноў ты, Рыбкін? — здзіўлена прамармытаў Пятро Кузьміч, з поўным ротам, жуючы. — Ну і настырная ж ты душа... Не прыбяру розуму, што з табой рабіць: не магу я да цябе ехаць... У мяне свае госці.

— Дык вы ж абяцалі...

— Ну, абяцаў...

— Мы так рыхтаваліся,— канючыў я. — Парасё засмажылі! Нікога, акрамя вас... Сваёй сямейкай чакаем...

— Чакаеце? Хм, сапраўды атрымліваецца неяк не таго, нядобра. І нікога не запрашалі, кажаш? І закускі многа?

— А як жа, цэльнае парасё! У натуральным выглядзе, — жаласліва далдоніў я. — Цяпер вось прападзе.

Пятро Кузьміч задуменна абхапіў шырокай пяцярнёй свой падбародак і раптам аж узрадаваўся:

— Бліскучая ідэя! Пачакай, брат...

Ярка асветлены пакой на нейкі момант праглынуў Пятра Кузьміча, але тут жа ён зноў паказаўся ў пярэдняй з хлопцам — дылда пад столь.

— Знаёмся, Рыбкін: мой любімы Вася, студэнт... Жывая вага — 120 кілаграмаў! Як табе падабаецца? А весялун які! Вось забірай яго і рабі з ім, што хочаш. Ён — гэта я, лічы... Як кажуць, паўнамоцны прадстаўнік.

Вася імгненна згроб мяне ў свае магутныя абдымкі, лёганька, як пакаёвага сабачку, паціскаў і нецярпліва, па-сяброўску ўжо кінуў:

— Ну, паехалі, ці што, бацька?

Што ж паробіш, на бязрыб'і і рак рыба...

Таксі даімчала нас хутка. «120 кілаграмаў» усю дарогу вінавата хіхікаў і заводзіў модныя песенькі. А я, адчуваючы пэўную незадаволенасць, пазіраў у акенца, заклапочана разважаў: як сустрэне мяне жонка з гэтым... сынком... Канечне, з'есць і на Новы год нічога не пакіне... Такая ўжо натура: хоць скрозь зямлю праваліся, а падавай ёй за святочны стол самаго Пятра Кузьміча!

Ды, як кажуць, была маланка, а гром не грымнуў: ледзьве жонка даведалася, што «сам» накіраваў да нас Васю, як твар яе адразу палагоднеў:

-- Раз прыслаў свайго сынка — значыць паважае... Бяжы ж да госця, садзі яго за стол, а я прычоску падкудлачу.

Падбадзёраны, выбег я з кухні да госця і... уразіўся: Вася сам ужо добра ўладкаваўся за сталом і княжацкім уладарным жэстам запрашаў усіх «даніць»... Усе — гэта дзве мае састарэлыя цёткі, Алена і Параска. Яны спалохана вохкалі, крякталі, адмаўляліся, а «120 кілаграмаў» насядаў.

— Пенсіянеры! Не губляйце марку! — заклікаў Вася лозунгамі. — На вас пазірае ўся наша слаўная моладзь!

І дарэмна позіркі збянтэжаных бабулек шукалі ратунку на маім непахісным твары: ён загадваў ім — піце...

І цёткі выпілі. За стары год. Потым — яшчэ раз за стары. І непрыкметна — за Новы... А Васеў зычны голас камандаваў і не даваў спакою:

— Э, не... Так справа не пойдзе, піце ўсё, а то... раскажу Пятру Кузьмічу. Раў... раў... не-н-не... на моладзь! Музыку!

— Які малайчына, — у захапленні шаптала мне на вуха жонка. — Ці не нагадвае ён табе аднаго гусара з кіно? Колькі зграбнасці, прыгажосці...

Але яна не паспела дагаварыць, бо «гусар» раптам падбег, схапіў яе за руку і імкліва пацягнуў на сярэдзіну пакоя.

— Усе, усе скачам! — аб'явіў ён. — Музыку!

Драўлянай рукой уключыў я наўздагад прыёмнік: бурны джаз запаланіў пакой... Маленькая, шчуплая жонка ніякавата і няўмела тупала, таўклася ля Васі. Затое гэтага мучыцеля цяжка было пазнаць: нешта неверагоднае, першабытна-дзікае з'явілася ў яго хуткіх рухах. Ён бязлітасна, як пёрка, круціў вакол сябе маю жонку, падкідваў, як мяч, яе ўгору, апускаў уніз... Я нават заплюшчыў вочы: яшчэ хвіліна і нешта здарыцца непапраўнае!

Мне б ратаваць бедную спадарожніцу жыцця, а я толькі бездапаможна стагнаў... Эх, быў бы гэты «120 кілаграмаў» ды не родным дзіцем Пятра Кузьміча! Тады б пагаварыў з піжонам... Цяпер жа я толькі ліхаманкава думаў, колькі яшчэ працягнецца гэтае вар'яцтва. Але ж, самі разумееце, на карту было пастаўлена ўсё.

...Толькі пад раніцу, калі, згубіўшы прытомнасць у чарговым твісце, жонка ляжала на канапе, а абедзвюх цётак забрала «хуткая дапамога», я, нарэшце, адвёз дамоў і «120 кілаграмаў»... Праўда, па дарозе па яго загаду яшчэ двойчы я вылазіў з машыны і на марозчыку скакаў «Яблычка». Потым пеў пра козліка, якога з'елі злыя студэнты... Карацей, такога гвалту над сваёй асобай і ворагу не пажадаў бы. Адно мяне суцяшала: не марна, залічыцца...

Сяк-так транспартаваў я «120 кілаграмаў» на трэці паверх. Стаміўся, змок увесь, як той чорт у казцы, але да самых дзвярэй Пятра Кузьміча даставіў малайца. Аж радасна на сэрцы.. Асцярожненька пазваніў. Нясмела пастукаў. Паскробся... Доўга там не адкрывалі. Затым за дзвярыма пачуўся санлівы і незадаволены голас Пятра Кузьміча — аж дрыжыкі па спіне:

— Гэта ты зноў, Рыбкін?!

— Я... і ваш сынок.

— Які яшчэ сынок?!

— Ды Васютку прывёз... «120 кілаграмаў», — залапатаў я, хіхікаючы. — Вясёленькі ён, перахапіў трошкі...

— Сам ты перахапіў, Рыбкін! — гнеўна зашыпеў Пятро Кузьміч. — Усё на свеце пераблытаў... Вядзі хлопца ў дзверы насупраць... Гэта суседа сын!

Г. БРУХЭР

## ШТО І ЯК ДАРЫЦЬ

ХУТКА Новы год, і таму мне хацелася падзяліцца з вамі сваім вопытам, як трэба рабіць падарункі.

У першую чаргу — дарыабяцанкі. Як сказаў некалі яшчэ пан Авідый, абяцанкі нікому не шкодзяць. І дададзім, нічога не каштуюць. Кожны можа атрымаць іх столькі, колькі пажадае.

Не блага запомніць і другое важнае правіла: рабі падарункі, улічваючы дыялектыку. Гэта значыць, дарыць трэба чалавеку, калі ты абсалютна ўпэўнены, што ён табе абавязкова аддзячыць. Узрост гэтай простай мудрасці вымяраецца стагоддзямі. Аб эфектыўнасці такіх дароў сведчыць яшчэ святое пісанне...

Заўважце і наступнае: па падарунках, як вядома, мяркуюць пра чалавека: чым даражэй падарунак, тым больш варты чалавек, які яго зрабіў. Але не перастарайцеся, калі ласка. Тут да месца цудоўная старая прыказка: «Падоранаму каню ў зубы не глядзяць». Перш за ўсё трэба знаёмага катэгарычна спытаць: «Ну, дык што ты хочаш атрымаць у якасці навагодняга падарунка?» Той, у каго вы гэта запытаеце, пачне ветліва ўхіляцца ад адказу, манернічаць: «Ах, ну што ты, навошта...» Што ж, таго, хто так сарамліва адмаўляецца, не трэба прымушаць пакутваць; не хоча — не трэба...

Цяпер крышку аб некаторых тонкасцях гэтай справы.

Падарункамі даказваюць сваё пастаянства. Жонка можа з года ў год атрымліваць у свята панчохі, сын — бярозавую кашу, шаноўныя сваякі— паштоўкі, ну а каханая... футра. Як трапна кажуць у народзе, без агню ж не зварыш!

Гэтымі прынцыпамі можна карыстацца таксама, робячы падарункі, якія маюць выключна практычнае значэнне, — напрыклад, жбан для малака.

Наогул, падарункі, якія робіць муж жонцы, патрабуюць вялікай далікатнасці. Калі хочаш паказаць сябе з найлепшага боку, інтэлектуалам — падаруй кнігу, якую даўно ўжо сам марыш прачытаць. Калі ж вы з жонкай пасварыліся, можна паводзіць сябе значна прасцей: «Цяпер Новы год. Вось табе, дарагая, пяць марак, ідзі і купі сабе што-небудзь».

Як бачыце, я магу навучыць многаму, што датычыць спосабаў рабіць падарункі. І ўсё ж, нягледзячы на гэта, мне трэба вывучыць да свята вершык, які я раскажу Дзеду Марозу, калі мае правераныя спосабы не будуць дзейснымі...

Пераклаў з нямецкай
Г. БАЛАШ.


По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.